# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень — 27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

26 лютага 2016 года №9 **(1087)**





## Як вярнуць прадаўцу посуд, набыты ў яго быццам "пад гіпнозам" за 9 мільёнаў рублёў

старонка **3**

## "Габелены з аленямі". Сенсацыі ад прэм'еры маладзечанскага кіно не адбылося

старонка **6**

## Чытайце работы сямі вучняў, якія ўдзельнічаюць у конкурсе "РГ" "Напішы эсэ і выйграй смартфон"

старонкі **20-21**

# 800 000 еўра два гады не працуюць на развіццё



# Камарова

"Любыя планы па развіцці вёскі нерэальныя, калі тут не будзе моладзі, – падкрэслівае кансультант Цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва "Камарова" **Эдуард Вайцяховіч**. – Мы і іншыя не хочам з'язджаць, проста хочам жыць тут, у гэтай вёсцы, каб дзеці засталіся, каб унукі каля нас жылі.

старонка **2**

Фота з архіва "РГ".

ТЭМА НУМАРА

# Як 800 тысяч еўра два гады не працуюць на развіццё Камарова

МЯДЗЕЛ

**За грошы Еўрасаюза ўжо маглі б рэканструяваць графскі дом і стварыць новыя працоўныя месцы на вёсцы. Але з-за юрыдычных пытанняў сродкі "завіслі" ў банку.**

### Аграэкатурызм і цэнтр развіцця

Вёска Камарова на Мядзельшчыне для вясковага бізнесу асаблівая – у многіх пачынаннях яна была першай. Тут пачалі развіваць аграэкатурызм, яшчэ калі пра яго мала хто чуў у Беларусі. Тут з'явіўся першы ў краіне цэнтр развіцця сельскага прадпрымальніцтва "Камарова", сталі ладзіцца рэспубліканскія кірмашы народных рамёстваў і промыслаў "Камарова-кола дзён", ажыццявілі праекты ў альтэрнатыўнай энергетыцы, экалогіі і эканоміцы.

Рабілі шмат для таго, каб вёска развівалася, каб тут заставалася моладзь.

– Любыя планы па развіцці вёскі нерэальныя, калі тут не будзе моладзі, – падкрэслівае кансультант Цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва "Камарова" **Эдуард Вайцяховіч.**

А для гэтага патрэбныя працоўныя месцы. Таму і задумалі адкрыць вясковы бізнес-інкубатар. Ён павінны дапамагаць людзям арганізаваць сваю вытворчасць, забяспечыць памяшканнямі.

Для навучальнага цэнтра бізнес-інкубатара падабралі будынак – графскі дом 19 стагоддзя. Яго не выкарыстоўваюць ужо з 1998 года.

– Будынак цяпер у страшным стане. Трэба нескладная рэканструкцыю рабіць, там нічога жывога няма – толькі сцены, і тыя неабходна рамантаваць. Падумалі адрэстаўраваць графскі дом – для Камарова гэта вельмі важна, таму што вёску найперш ведаюць па сядзібе з паркам. Палічылі, што пасля рэстаўрацыі зробім тут навучальны цэнтр, дзе можна будзе размясціць не звязаныя з вытворчасцю прыватныя прадпрыемствы, для якіх трэба толькі офіс. А ў іншых будынках размесцім вытворчасці.

### Як праект затармазіўся

Напісалі праект. Яго падтрымала Еўракамісія і выдзелілі грант грамадскаму аб'яднанню "Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю" – з улікам суфінсавання ён перавышае 800 тысяч еўра. Два гады таму паступіў першы транш – 172 тысячы еўра.

Здаецца, далей проста: выкарыстоўвай грошы, развівайся. Але тут узнікла праблема.

Каб пачаць працаваць з грантам, трэба зарэгістраваць праект у Міністэрстве эканомікі. Там адмовілі ў рэгістрацыі, таму што будынак не знаходзіцца ва ўласнасці атрымальнікаў, а ў камунальнай уласнасці вобласці.

Справа ў тым, што інвестыцыйны дагавор па стварэнні бізнес-інкубатара заключылі яшчэ ў 2012 годзе, да атрымання гранту. У той час заканадаўства не дазваляла перадаваць будынак ва ўласнасць, таму перадалі яго ў бязвыплатнае карыстанне. Абяцалі вырашыць пытанне ўласнасці потым.

– Калі ўзнікла патрабаванне стаць уласнікамі, пачалі прасіць: перадайце будынак ва ўласнасць бязвыплатна ці прадайце з аўкцыёну за невялікія грошы. Бо падлічылі, што тут трэба велізарныя грошы на рэканструкцыю, – працягвае Эдуард Вайцяховіч. – Адмовілі. Сказалі, што вы яшчэ павінны заплаціць штраф у памеры арэнды з-за невыканання ўмоў інвестыцыйнага дагавора, бо не зрабілі рэканструкцыю будынка. А як жа яе зробіш, калі грошы не дазволілі выкарыстоўваць?! Урэшце, па рашэнні эканамічнага суда вобласці улетку мінулага года заплацілі больш за 40 мільёнаў рублёў. Амаль год таму тагачасны намеснік старшыні Мінаблвыканкама **Аляксандр Турчын** у эфіры ОНТ казаў: "Мы сёння не пярэчым супраць перадачы будынка ва ўласнасць аб'яднання з умовай выканання патрабаванняў дзеючага заканадаўства ў 2012 годзе". Мы заплацілі ўсе, што трэба.

А далей ізноў пачаліся хаджэнні па кабінетах і перапіска – дырэктар цэнтра развіцця сельскага прадпрымальніцтва "Камарова" **Ала Вайцяховіч** паказвае шмат дапісаў і адказаў.

– Адказы даюцца ні пра што. А час сыходзіць. У самыя кароткія тэрміны выдзеленыя грошы могуць забраць назад. Ніхто не будзе чакаць, што сродкі будуць вісець у банку і не выкарыстоўвацца. Я думаю, што восемсот тысяч еўра – гэта не такія малыя грошы для любой краіны, – даводзіць Эдуард Вайцяховіч.



Фота забеспячэння Алы ВАЙЦЯХОВІЧ

Паводле праекта, у графскім доме хочуць зрабіць навучальны цэнтр бізнес-інкубатара.

### Якое бачыце выйсце?

– Лічу, сітуацыя простая. Для яе вырашэння ў Мінаблвыканкама ёсць абсалютна ўсе паўнамоцтвы. Ён можа перадаць ці прадаць нам будынак графскага дома, і будынкі для арганізацыі прадпрыемстваў.

Праўда, з пакупкай таксама можа быць не так проста. Паводле ацэнкі, першапачатковая цана сядзібнага дома – каля 600 мільёнаў рублёў.

– І гэта на будынак, у які трэба ўкласці кучу грошай, – непакоіцца Эдуард Вайцяховіч.

### Што ў планах

Цяпер у Камарове шукаюць рознае выйсце. Падумалі, што можа, адмовіцца ад гэтага будынка, перапісаць праект на базе цэнтра. Але ж у такім выпадку, ці адрэстаўруе хто графскі дом?

Калі ўдасца запусціць праект, хочуць зрабіць шэсць прадпрыемстваў – самых розных. У праекце выдаткаваныя грошы на падтрымку гэтых прадпрыемстваў.

– Лічу, па 10-15 тысяч еўра – прыстойная падтрымка для маладога прадпрыемства. Гэтыя ж грошы не трэба аддаваць, – кажа Эдуард Вайцяховіч.

Плануюць набыць старыя калгасныя майстэрні, калі яны будуць выстаўленыя на аўкцыён. Знайшлі інвестара на праект "Мануфактура хлеба і павідла". Паводле яго, плануецца адрадзіць пякарню ў Камарове, пабольшыць яе, выпякаць хлеб па старой тэхналогіі. Рабіць павідла з таго, што традыцыйна расце ў краі. Ёсць ідэі, каб асабістыя гаспадаркі пераарыентаваць на экалагічную прадукцыю – каб у сезон праводзіць экалагічныя кірмашы.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА

Эдуард Вайцяховіч.

Ідэй шмат, але трэба, каб была аснова – памяшканні.

– Няхай бы выстаўлялі старыя будынкі на аўкцыён. Калі не мы, то хай нехта іншы купіць – абы не пуставала. Разумееце, будзе нейкае прадпрыемства, будуць рабіць людзі, плаціць падаткі, будзе жыццё вакол. Чым болей тут будзе працаваць прадпрыемстваў, тым лепей будзем людзям на вёсцы.

– Неаднойчы ў нас пыталіся: "Нашто вам гэта трэба?". Бо мы і іншыя не хочам з'язджаць, проста хочам жыць тут, у гэтай вёсцы, каб дзеці засталіся, каб унукі каля нас жылі. Ва ўсім свеце людзі жывуць у вёсцы, нармальна сябе адчуваюць і не думаюць нікуды з'язджаць, – завяршае размову Эдуард Вайцяховіч.



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

### Праект быў высока ацэнены з боку Еўрапейскай камісіі

Сітуацыю каментуе каардынатар праектаў Прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Беларусі **Аляксей Вавохін:**

– Кароткатэрміновыя затрымкі ў рэалізацыі праектаў па розных прычынах досыць распаўсюджаныя. Тым не менш, такія значныя затрымкі з'яўляюцца выключэннем. Са шкадаваннем адзначаю затрымку ў рэалізацыі праекта. Прайшло ўжо больш за два гады з моманту падпісання грантавага кантракта і фармальнага пачатку праекта, аднак да гэтага часу практычная рэалізацыя мерапрыемстваў не пачалася. Мы спадзяёмся, што сітуацыя выправіцца ў бліжэйшы час. Зараз разам з арганізацыямі, якія атрымалі грант, выпрацоўваем магчымае рашэнне.

Аляксей Вавохін дадаў, што праект быў высока ацэнены з боку Еўрапейскай камісіі і менавіта таму атрымаў фінансаванне:

– Праект накіраваны на развіццё мясцовай дзелавой ініцыятывы і прадпрымальніцтва, падтрымку ўстойлівых і сацыяльна скіраваных бізнес-ініцыятыў у сельскіх рэгіёнах, дзе прапанова такіх магчымасцяў дастаткова лімітаваная. Я лічу, што паўнавартаснае функцыянаванне сельскага бізнес-інкубатара ў Камарове з фінансавай падтрымкай Еўрапейскага саюза здольнае зрабіць значны ўклад у развіццё раёна і рэгіёна, даць дадатковыя магчымасці мясцовым жыхарам, правесці навучанне значнай колькасці маладых прадпрымальнікаў, падтрымаць іх сацыяльныя і эканамічныя бізнес-ініцыятывы, стварыць новыя працоўныя месцы.

Падкрэсліў ён, што падтрымка рэгіянальнага і мясцовага эканамічнага развіцця ўвогуле з'яўляецца адным з асноўных прыярытэтаў у супрацоўніцтве Еўрапейскага саюза і Беларусі, і гэты праект можа стаць выдатным прыкладам такога супрацоўніцтва.

Алесь ВЫСОЦКІ.



Загадчыца юрыдычнага аддзела гарадскога таварыства абароны спажыўцоў Кацярына Балашова.



Юрыст гарадскога таварыства абароны спажыўцоў Кацярына Абрамовіч.

**Офіс гарадскога таварыства абароны правоў спажыўцоў месціцца ў Маладзечне па адрасе: вул. Віленская, 12, каб. 23. Графік працы: пн-сб 11:00-15:00. Тэлефон бясплатнай "гарачай" лініі: 8-0176-50-41-43 альбо 8-029-764-24-07.**

# Не дайце сябе абдурыць

## Як вярнуць прадаўцу посуд, набыты ў яго быццам "пад гіпнозам" за 9 мільёнаў рублёў

МАЛАДЗЕЧНА

**Майстэрства прадаваць часам уражвае. Тыповая сітуацыя, калі ваш знаёмы набывае даражэзную касметыку, посуд ці бялізну, якія яму відавочна не па кішэні, а на наступны дзень хапаецца за галаву: "Што я нарабіў!".**

Галоўнае ў гэтым выпадку – не панікаваць. Заканадаўства не толькі дае магчымасць прадаўцу выкарыстоўваць самыя розныя метады, каб упэўніць любога ў тым, што яго тавар жыццёва неабходны. Заканадаўства таксама пакідае пакупніку магчымасць адмовіцца ад такой "жыццёва неабходнай" рэчы.

Спецыялісты гарадскога таварыства абароны правоў спажыўцоў, якое запрацавала ў Маладзечне пяць месяцаў таму, зубы з'елі на зваротах з гэткай праблемай.

– Да нас прыходзяць людзі і кажуць: "Я не ведаю, як так атрымалася, я была пад гіпнозам", – кажа загадчыца юрыдычнага аддзела грамадскага аб'яднання **Кацярына Балашова**. – І ў такія пасткі трапляюць не толькі пенсіянеры, якіх і так, і гэтак увесь час спрабуюць абдурыць. Быў выпадак, калі да нас прыйшла жанчына, якая працуе галоўным бухгалтарам.

Стандартная схема. Прадпрымальнікі, якія працуюць такім чынам, звычайна арандуюць прыгожае памяшканне ці рэстаран, дзе праводзяць прэзентацыю прадукцыі. Калі гэта праца з касметычнымі сродкамі, то часта запрашаюць дактароў, праводзяць дыягностыку скуры твару. І ўсё бясплатна, усё прыгожа.

А потым заключаюць дамову.

– Да нас звярнулася пенсіянерка, якая набыла каструлю і патэльню за 9,6 мільёна рублёў, – распавядае юрыст грамадскага аб'яднання **Кацярына Абрамовіч**. – Прычым ёй перадалі толькі адзін тавар. Другі яна так і не атрымала, хоць і прайшло ўжо больш за месяц.

Натуральнае пытанне: як? Як магчыма заключыць такую дамову? Справа ў тым, што менеджары, якія працуюць з людзьмі падчас такіх прэзентацый, гатовыя на месцы афарміць дамову.



Фота f-picture.net.

Няма грошай? – Не бяда, дадзім растэрміноўку!

Забылі пашпарт? – Не страшна, званіце дамоў, няхай вам з дому прадыктуюць нумар.

Трэба афарміць крэдыт? – Калі ласка!

Прадаўцы зробяць што заўгодна, абы з вамі ў той жа дзень заключыць дамову. Калі ёсць дамова – шлях адступлення не такі просты.

### Пракладаем шлях адступлення

І так. Мы ў сітуацыі, калі дамова ўжо заключаная, але вы перадумалі выконваць яе ўмовы. Па законе, у спажыўца ёсць права цягам 14 дзён пасля набыцця тавару яго вярнуць альбо абмяняць. Пры ўмове, што тавар не быў у эксплуатацыі і захаваныя ўсе ярлыкі і чэкі. Ёсць шэраг тавараў, якія нельга вяртаць, аднак посуд у іх лік не ўваходзіць. (Поўны пералік глядзіце ў пастанове Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 чэрвеня 2002 года №778)

– Праблема вось у чым. Прэзентацыя посуду праходзіла ў Маладзечне, а фірма знаходзіцца ў Брэсце, – тлумачыць Кацярына Балашова. – У законе аб абароне правоў спажыўцоў прапісана, што тавар можа быць вернуты па месцы продажу. Але ў заключанай дамове пазначана, што вяртаць тавар трэба менавіта ў Брэст, нягледзячы на тое, што яго прадалі ў Маладзечне. Каб не ехаць у Брэст, мы прапанавалі пакупніку адправіць тавар поштай, бо ў законе не прапісана, якім чынам ён павінны быць дастаўлены.

Каб прадавец пасля не сказаў, што патэльня была ва ўжытку, сам перад гэтым падсмажыўшы на ёй курыцу, зрабілі наступнае. Сфатаграфавалі посуд, як тавар быў запакаваны пры адпраўцы, склалі акт агляду ў прысутнасці прадстаўніка гарадскога таварыства абароны правоў спажыўцоў. У ім прапісалі, што няма прыкмет эксплуатацыі, дэфектаў. Таксама на пошце склалі акт агляду тавару і пазначылі яго цэннасць. У гэтым выпадку паштальён мусіць упэўніцца, што ляжыць у каробцы, каб у далейшым не казалі, што прыйшла толькі накрыўка.

– Усё гэта мы зрабілі, таму што, як правіла, арганізацыя не прымае назад тавар. У інтэрнэце ёсць матэрыялы, дзе фірма згадваецца ў судовых разбіральніцтвах, – дадае Кацярына Балашова. – Парадкавы нумар заключанай дамовы з маладзечанкай, што прыйшла да нас, – 10 000. Гэта значыць, ужо столькі дамоў з імі заключылі. Падаецца неверагодным.

Звычайна на хітрыкі менеджараў падобных фірмаў трапляюць пажылыя людзі, а юрыстам з просьбай дапамагчы тэлефануюць іх дзеці. І хоць выйсце ёсць, найлепш адразу не пагаджацца на розныя прапановы, а спачатку ўзважыць рашэнне, усё пралічыць, паглядзець прапановы іншых вытворцаў і вырашыць, ці сапраўды так неабходная рэч, якую вы збіраецеся набыць.



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
Vel 566-26-99 (працоўны)



ЛІЧБА НУМАРА

Інфаграфіка Зоі ХРУЦКАЙ.

**5,4 тысячы**

новых кватэр у краіне пабудавалі арганізацыі ўсіх формаў уласнасці ў студзені.

**27,2%**

сярод іх жыллё ў сельскай мясцовасці.

Паводле Нацстат.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 18.02 | 25.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 21 914,00 | **21 610,00** |
| Еўра | 24 438,00 | **23 834,00** |
| Злоты | 5 504,76 | **5 451,36** |
| Расійскі рубель | 281,10 | **284,72** |
| Грыўня | 800,22 | **794,49** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 24.02** | | |
| Еўра | 24100/24500 | **23400/23850** |
| Долар ЗША | 21600/21920 | **21300/21700** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 17.02 | 24.02 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 151 300 | **169 000** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **28 900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 43 200 | **43 800** |
| Селядзец, 1 кг | 52 000 | **57 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | **138 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 500 | **17 500** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 500 | **16 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 25 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 500 | **7 500** |
| Часнок, 1 кг | 64 900 | **64 000** |
| Капуста, 1 кг | 5 500 | **5 500** |
| Морква, 1 кг | 6 900 | **6 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 59 900 | **78 000** |
| Лімоны, 1 кг | 43 000 | **43 000** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 500 | **27 000** |
| Мандарыны, 1 кг | 29 900 | **30 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 23 500 | **23 500** |
| Ківі, 1 кг | 33 900 | **34 000** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 500** |
| Памідоры, 1 кг | 30 000 | **30 000** |
| Агуркі, 1 кг | 40 000 | **45 000** |
| Перац, 1 кг | 59 900 | **70 000** |
| Вінаград, 1 кг | 35 000 | **35 000** |
| Бананы, 1 кг | 23 900 | **23 000** |
| Хурма, 1 кг | 29 900 | **28 000** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Яблыкі, 1 кг | 14 000 | **14 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 30 000 | **30 000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 4 000 | **4 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

## Спрабаваў адабраць у пенсіянеркі сумку

МАЛАДЗЕЧНА

**У пятніцу, 19 лютага, каля 13:00 паблізу дома №29 па вуліцы Францішка Скарыны пачуўся крык: "Дапамажыце, рабуюць".**

Аказалася, што крычма крычыць 72-гадовая пенсіянерка, якая вярталася з аптэкі з пакетам з лекамі.

Каля пад'езда дома да яе падышоў незнаёмец і вырваў з рук пакет і сумку.

Крык пенсіянеркі пачулі двое мужчын. Яны дагналі зламысніка, забралі ў яго рэчы бабулі і вярнулі ёй.

Пасля гэтага жанчына выклікала міліцыю. Па камерах відэаназірання і па прыкметах міліцыянеры затрымалі 36-гадовага раней неадназарова судзімага жыхара вёскі Рагазы.

Цікава, што толькі ў лістападзе 2015 год мужчына вызваліўся з месцаў зняволення, дзе адбываў пакаранне за крадзеж.

Пра гэты выпадак "Рэгіянальнай газеце" расказаў старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

**Наталля ТУР.**

## У аварыі пацярпеў падлетак

МЯДЗЕЛ

**Удзень 22 лютага відавочца паведаміў у службу выратавання аб аварыі.**

Яна адбылася паблізу вёскі Брусы Мядзельскага раёна. Патрабавалася дапамога ў дастаўванні пацярпелага з аўтамабіля.

Як стала вядома, кіроўца аўтамабіля БМВ-318 не справілася з кіраваннем. У выніку аўтамабіль з'ехаў у кювет і ўрэзаўся ў дрэва.

Выратавальнікі пры дапамозе гідраўлічнага інструмента вызвалілі з аўтамабіля 15-гадовага пасажыра. Яго шпіталізавалі з папярэднім дыягназам "пералом левай рукі са зрушэннем". Кіроўца аўтамабіля не пацярпела.

**Паводле абласнога ўпраўлення МНС.**

## Ездзіў без правоў са сваімі малымі дзецьмі

ВАЛОЖЫН

**Жыхара Валожыншчыны сёлета 17 студзеня супрацоўнікі ДАІ спынілі для праверкі дакументаў, бо ехаў на машыне, у якой не было бампера і дзяржнумара.**

Аказалася, гэта дробязь, за якую яго можна было затрымаць.

Мужчыну спынілі, калі ён ехаў з вёскі Камень у вёску Сівіцу. Адлегласць паміж імі 17 кіламетраў.

Як распавяла старшая следчая Валожынскага РАСК **Юлія Селятыцкая**, аўтамабіль, якім кіраваў мужчына, не зарэгістраваны і ў яго не пройдзены тэхагляд. У машыне ехалі жонка, а таксама малыя дзеці, якія перавозіліся без спецыяльных дзіцячых аўтамабільных крэслаў. Старэйшаму дзіцяці – тры з паловай гадкі, малодшаму – паўтара.

Пасведчання кіроўцы ў мужчыны не было. Больш за тое, ён ніколі не вучыўся на кіроўцу.

Як зазначыла Юлія Селятыцкая, у 2011 годзе яго судзілі за кіраванне паўторна цягам года ў нецвярозым стане. Потым яго прыцягвалі да адказнасці за невыкананне прыгавору суда, калі ён зноў сеў за руль.

Тады мужчыну прысудзілі штраф у 100 базавых велічынь, абмежаванне волі без накіравання ў выпраўленчую установу і пазбаўленне права кіравання транспартнымі сродкамі.

Калі яго затрымалі сёлета 17 студзеня, частку пакарання ён ужо адбыў і засталося толькі пазбаўленне права кіравання транспартам.

– Жонка кіроўцы была ў курсе, што яе мужу нельга садзіцца за руль, аднак жаданне з'ездзіць у госці да сваякоў перамагло, – дадае старшая следчая.

Аўтамабіль, на якім ездзіў мужчына, ён набыў у аднавяскоўца без пераафармлення дакументаў.

**Настасся РОЎДА.**



# Школьнік надрукаваў "грошы-закладкі"

### Дзядуля аднакласніка схадзіў з імі ў краму



Фота tut.by.

МЯДЗЕЛ

**Пачалося ўсё з таго, што 15 лютага знайшлі фальшывую купюру ў 100 тысяч рублёў. Натрапілі на яе пры падліку выручкі ў аддзяленні "Беларусбанка".**

Купюра была ў выручцы, што здалі з прыблізна 17 вясковых крамаў.

Супрацоўнікі Мядзельскага РАУС пачалі іх усе правяраць. У адной з прадаўшчыц выклікаў падазрэнне мясцовы жыхар, што купляў віно.

– У вёсцы ж усе адзін аднаго ведаюць, могуць сказаць, у каго ёсць грошы на выпіўку ці пакупкі. Прадаўшчыца расказала, што такі чалавек прыходзіў, можа быць, ён гэту "купюру" прынёс. Паехалі да яго гэту інфармацыю правяраць, – распавёў выканальнік абавязкаў начальніка аддзялення інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінаблвыканкама **Аляксандр Грабко**.

Аказалася, мужчына прыхапіў фальшывую купюру ва ўнука-сямікласніка. Пачалі разбіраць: хлопчык расказаў, што даў яе сябар.

– Хлопчык прынёс са школы дадому дзве "закладкі-купюры": 100 і 50 тысяч рублёў. Паказаў маці. Тая: "Вы толькі не дадумайцеся несці іх у краму ці так куды". А 56-гадовы дзядуля пад шумок узяў іх, – працягвае Аляксандр Грабко.

Мужчына патраціў у краме яшчэ адну "купюру", у 50 тысяч рублёў.

**"Купюры-закладкі" школьнік друкаваў дома**

Як высветлілася, сямікласнік раздрукаваў на хатнім прынтары пяць паперак. Сярод іх – па дзве ў 50 тысяч і 100 тысяч рублёў і адну – у 200 тысяч рублёў. Узоры спампаваў з інтэрнэта. Выкарыстоўваў іх як закладкі і раздаваў у школе.

У дзеяннях яго і іншых вучняў злачынных намераў няма.

**Дзеці не збіраліся выкарыстоўваць гэтыя "купюры" як грошы – толькі як закладкі.**

А ў дачыненні да мужчыны распачалі крымінальную справу па факце збыту падробленых грошай. Яго могуць пакараць абмежаваннем волі на тэрмін ад двух да пяці гадоў або пазбаўленнем волі на тэрмін ад двух да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ваша лецішча можа стаць ласым кавалачкам для зладзеяў

МАЛАДЗЕЧНА

**Складана захаваць маёмасць, якая зімуе на лецішчах і не бачыць гаспадара, пакуль сонца зноў не пачне грэць. Крадзяжы ў гэты час не рэдкасць.**

Маёмасць у дачных доміках досыць даступная для зламыснікаў, асабліва зімой і ў міжсезонне. У вяснова-восеньскі час крадуць прадукты.

На 1 студзеня 2016 года на Маладзечаншчыне зарэгістравана 163 садовыя таварыствы. Цягам 2015 года ў іх здзейснена 75 крадзяжоў (у 2014 – 85).

Як паказвае практыка, звычайна крадуць з лецішчаў асобы, схільныя да антыграмадскага ладу жыцця, бадзяжніцтва. Іх мэта – збыць крадзенае дзеля таго, каб набыць потым спіртное. Таму яны крадуць усё, што трапляе пад руку.

**Дзе адбываюцца крадзяжы:**

29 – Радашкавіцкі сельвыканкам
23 – Красненскі сельвыканкам
8 – Алёхнавіцкі сельвыканкам
5 – Мясоцкі сельсавет
4 – Палачанскі сельсавет
2 – Гарадоцкі сельсавет
2 – Гарадзілаўскі сельсавет

**У якіх садовых таварыствах неаднойчы кралі:**

10 – "Сяброўства ў Баярах"
5 – "Кветка", "Зялёныя агні", "Сяброўства"
4 – "Ветэран-7", "Зрок-2"
3 – "Асанава", "Медтэхнік", "Прытулак"
2 – "Вясёлка", "Мікрон", "Прагрэсіўны", "Зялёная Дубравачка", "Баяры-2", "Сосны-2008", "Пісараўская бярозка", "Дубравы-1982".

Цяпер вартаўнічая ахова, якая прысутнічае ў некаторых садовых таварыствах, матэрыяльнай адказнасці за захаванасць маёмасці садаводаў не нясе, прапускнога рэжыму няма. Часта на работу ў якасці вартаўнікоў уладкаваныя пенсіянеры, якія не здольныя гарантаваць бяспеку на тэрыторыі, якую яны ахоўваюць.

За крадзеж прадугледжаная як адміністрацыйная, так і крымінальная адказнасць. Гэта можа быць штраф, адміністрацыйны арышт, грамадскія працы, выпраўленчыя работы, абмежаванне альбо пазбаўленне волі з канфіскацыяй альбо без канфіскацыі маёмасці.

**Па інфармацыі аддзела ўнутраных спраў Маладзечанскага райвыканкама.**



Выявы забяспечаны Алегам ДРАБЫШЭЎСКІМ.

Карціна беларускага мастака Алега Драбышэўскага, назву да якой трэба прыдумаць.

# На адкрыцці выставы наведнікі прапаноўвалі назвы новых карцін

## Свае назвы могуць дасылаць таксама нашы чытачы

АШМЯНЫ

**У Ашмянскім краязнаўчым музеі імя Францішка Багушэвіча праходзіць персанальная выстава “Водар Радзімы” беларускага мастака Алега Драбышэўскага. Прысвечаная яна Году культуры ў Беларусі.**

Родам жывапісец з мястэчка Гудагай, што на Астравеччыне. Ад 1990 года жыве і працуе ў Мінску.

Лёсам ён звязаны і з Ашмяншчынай. Падчас Вялікай Айчыннай вайны сям’ю маці мастака на Віцебшчыне разам з іншымі сем’ямі з невялікім скарбам і хатняй жывёлай і птушкай немцы загналі ў цяплушкі таварнага цягніка. Накіравалі ў заходнім напрамку – як потым высветлілася, у Кёнігсберг. Бабуля **Тацццяна Емяльянаўна** часта ўспамінала, як яе ўразіў разбураны фашыстамі Віцебск.

На станцыі Ашмяны цягнік спыніўся. Пайшлі чуткі, што наперадзе разбураныя шпалы, рэйкі. Калі людзей высадзілі, іх ужо чакаў нехта з падводамі. Аказалася, за імі прыехалі ад паноў, якія вярнуліся з-за мяжы, каб развезці да месцаў жыхарства і працы. Такім чынам продкі жывапісца з малымі дзецьмі трапілі ў вёску Паляны Ашмянскага раёна. Жылі ў будынку былой пачатковай школы, а з 1944 года – у аднаўленай. Затым пераехалі на Астравеччыну. Потым маці жывапісца закончыла Ашмянскае педагагічнае вучылішча.



Выявы забяспечаны Алегам ДРАБЫШЭЎСКІМ.

Рака Бярэзіна і лазня ў Бакштах.

### Быў і майстар-клас

Персанальныя выставы мастака праходзілі ў многіх кутках Беларусі, у тым ліку і ў нашым рэгіёне – Астраўцы, Маладзечне, Мядзеле, Гудагаі, Рымдзюнах, Варнянах. У Смаргоні летась прайшла выстава “Прыгажосць”, прысвечаная 250-годдзю Міхала Клеафаса Агінскага.

На адкрыццё выставы “Водар Радзімы” прыйшлі ашмянцы: дарослыя і юныя. Алег Драбышэўскі расказаў пра кожны з твораў, пазнаёміў з гісторыяй іх напісання, правёў нават майстар-клас, дзе разам з аматарамі жывапісу высветліў асаблівасць кампазіцыі, яе завершанасць, мастацкае абагульненне, асаблівасць тэхнікі – “аксамітнасць”. Гучалі вершы, прысвечаныя жывапісцу. Гледачы пакінулі свае запісы ў Кнізе водгукаў, атрымалі ад мастака ў падарунак буклеты.

Выставу можна наведаць да 12 сакавіка. Магчыма, яна працягнецца і даўжэй.

### Называем карціны разам

На выставе ёсць дзве новыя карціны, напісаныя да Году культуры ў Беларусі. Аматары жывапісу актыўна прапаноўвалі ім назвы. Да іх могуць далучыцца чытачы “РГ”.

На адной з карцін – Маладзечна, дзе многія гады жылі бацькі мастака. Ідэяй напісання з’явіўся паказ абуджэння, перамен, новага, маладога…

На другой карціне – рака Бярэзіна, лазня ў Бакштах, далей вёска Заберазь (Іўеўскі раён).

У 2008 годзе выстава жывапісца праходзіла ў Барысаве, што таксама на Бярэзіне, але іншай. Таму, у першую чаргу, гэта месца прыцягнула мастака тым, што блізка ад ракі размешчаная вёска з падобнай назвай Барысаўка і, што яшчэ цікавей, – вёска Астраўцы.

Свае варыянты назваў можаце пакідаць у каментарах да артыкула на сайце **rh.by**. Таксама дасылаць на электронны адрас мастака: **drobyshart@ mail.ru** ці нашай газеты **regionnews@ rh.by.** Альбо па пошце: **“Рэгіянальная газета”, Вялікі Гасцінец, 68-а, 222310, Маладзечна.**

Карціны у колеры можна паглядзець на сайце Rh.by



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

# Валожынцы выберуць птушку-сімвал раёна

ВАЛОЖЫН

**У Валожынскім раёне распачалася ініцыятыва “Прыродны сімвал раёна (птушка) як каталізатар развіцця экатурызму”.**

Ініцыятарам стала грамадскае аб’яднанне “Ахова птушак Бацькаўшчыны” (АПБ). Яго спецыялісты, у тым ліку арнітолагі, разам з мясцовымі актывістамі запрасілі ў Валожын на “круглы стол” уладальнікаў аграсядзіб, настаўнікаў біялогіі, работнікаў Міністэрства прыроды, работнікаў краязнаўчага музея, дырэктара рэспубліканскага ландшафтнага заказніка “Налібоцкі” і прадстаўнікоў грамадскасці.

Удзельнікі “круглага стала” абралі пяць птушак, характэрных для Валожынскага раёна. У асноўным – гэта прадстаўнікі Чырвонай кнігі, насельнікі Налібоцкай пушчы і вадаёмаў мясцовасці.

**Прэтэндэнтамі на птушку Валожыншчыны сталі зімародак, чорны бусел, пугач, малы арлец, глушэц.**

Апошні з’явіўся ў канчатковым спісе дзякуючы **Васілю Гуркову**, дырэктару Налібоцкага заказніка, дзе сталі разводзіць папулярную сярод паляўнічых птушку ў адмысловых гадавальніках.

Астатніх птушак арнітолагі прапанавалі таксама не проста так. У Валожынскім раёне, да прыкладу, самая вялікая ў Беларусі папуляцыя зімародка, нягледзячы на тое, што яго даволі цяжка заўважыць. Малы арлец на Валожыншчыне захоўвае чыстыя прыкметы свайго віду і не змешваецца з вялікім арляцом, як гэта адбываецца ў іншых рэгіёнах Беларусі. Валожынскі раён – якраз тое месца, дзе вы найверагодней можаце пабачыць чорнага бусла і белаcпіннага дзятла.

Неўзабаве на сайце распачнецца галасаванне за адну з гэтых птушак. Ад кожнага з нас залежыць, якім будзе сімвал раёна. Пасля таго, як птушку абяруць, у горадзе паставяць ёй скульптуру, намалююць графіці пераможцы. Таксама пройдзе шэраг мерапрыемстваў у школах горада, мэтай якіх стане павышэнне дзіцячай зацікаўленасці ў прыродзе і экалогіі рэгіёна. Уздоўж вела- і водных маршрутаў усталююць інфармацыйныя шчыты. Будуць праводзіцца сустрэчы і майстар-класы з працаўнікамі аграэкатурызму. Іх навучаць “прыродным” экскурсіям і раскажуць, якія крылатыя суседзі завітваюць на іхнія падворкі. А мясцовых рамеснікаў навучаць вырабляць унікальныя сувеніры.

Спецыялісты мяркуюць, што новы сімвал зможа прыцягнуць у раён экатурыстаў, бёрдвочэраў (назіральнікаў за птушкамі) і фатографаў-натуралістаў. Таксама ёсць надзея, што шэраг запланаваных мерапрыемстваў заахвоціць людзей быць больш актыўнымі ў захаванні біяразнастайнасці нашай краіны.

Сваіх птушак-сімвалаў ужо даволі даўно маюць Слуцкі раён (салавей) і Мёрскі (жураўель). Валожынскі ж раён стане першым у ініцыятыве АПБ, які займее сваю птушку. На чарзе таксама Жыткавічы. Прадстаўнікі АПБ заклікаюць мясцовыя ўлады іншых раёнаў ініцыяваць падобныя сустрэчы, каб кожны куток мог абзавесціся сваімі крылатымі сімваламі.

Ініцыятыва АПБ пры фінансавай падтрымцы ЕС/ПРААН “Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь”.

Аўгіня МАНЦЭВІЧ.

# Юрыст і псіхолаг дадуць бясплатныя кансультацыі жанчынам

МАЛАДЗЕЧНА

Кансультацыі па пытаннях сацыяльнай абароны пройдуць у чацвер, 3 сакавіка, у бібліятэцы “Верасок” ад 16:30 да 18:00.

Жанчын пракансультуюць спецыялісты раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва.

Акцыя прымеркаваная да Дня жанчын.

Пра гэта распавяла загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай раённай бібліятэкі **Тацццяна Закрэўская**.

За дадатковай інфармацыяй звяртайцеся па нумары: **(80176) 76-06-56**.

Аддзел інфармацыі.

## Маладая мастачка з Вілейкі пакажа другую выставу

**ВІЛЕЙКА**

У выставачнай зале імя Сілівановіча 26 лютага адкрываецца выстава "Высакосны год" маладой мастачкі з Вілейкі **Вольгі Пескавой.**

– Гэта ўжо другая персанальная выстава Вольгі. На ёй будуць паказаныя графічныя работы, інсталяцыі і фотаздымкі – тры накірункі, у якіх цяпер працуе, – расказала навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**.

Піша Вольга ў розных стылях, у залежнасці ад настрою. Спрабуе стварыць інсталяцыі з прыроднага матэрыялу. А яе фактурныя фотаздымкі паказваюць звычайныя праявы прыроды ў незвычайным ракурсе.

Адкрыццё выставы пройдзе а 16 гадзіне.

## Шкляначкі ад парфумы паказваюць у Вілейцы

**ВІЛЕЙКА**

Ад 23 лютага Вілейскі краязнаўчы музей прадстаўляе выставу "Шкляначкі парфумы". Пабачыць яе можна ў выставачнай зале імя Сілівановіча.

Праходзіць выстава ў межах праекта "Тыдзень калекцыянера".

Прадстаўленыя на ёй шкляначкі ад мужчынскай і жаночай парфумы з фондаў краязнаўчага музея і прыватнай калекцыі **Андрэя Дударчыка**. Усяго – больш за 30 экспанатаў.

Працягнецца выстава да 1 сакавіка, паведаміла навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея Надзея Аўдзей.

## У Плябані працуе выстава "Шахта і шахцёры" Аляксандра Салагуба

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аўтар работ называе экспазіцыю фотарэпартажам уласнага жыцця падчас працы ў шахце Данбаса ў 1982-1983 гадах.

На выставе сабраныя 40 фотаздымкаў. Экспазіцыя працавала ў некалькіх установах у Маладзечне, Чысці. Цяпер фотамастак вядзе перамовы аб арганізацыі фотавыставы на дзіцячую тэму ў Вілейцы.

У музеі традыцыйнай культуры і побыту ў Плябані выстава будзе працаваць некалькі тыдняў. Уваход бясплатны.

Аўтар работ запрашае выказваць свае пачуцці і меркаванні аб выставе ў Кнізе водгукаў.

**Аддзел інфармацыі.**

# "Габелены з аленямі". Сенсацыі ад прэм'еры маладзечанскага кіно не адбылося

**МАЛАДЗЕЧНА**

**"А другой магчымасці зрабіць першае ўражанне не будзе", – падумалася тады, калі рэжысёр фільма Іван Бялкоў абвясціў усім, хто сабраўся 20 лютага на прэм'еру фільма "Габелены з аленямі", што мантаж фільма не завершаны і сёння пакажуць толькі частку кіно.**

З кароткага фрагмента, што паказалі першым гледачам, можна было зрабіць выснову, што кіно вось пра што.

Двое маладзёнаў без пэўнага роду заняткаў прыдумваюць сабе хітрую схему, як зарабіць грошы на даверлівасці грамадзян. Яны арганізоўваюць "сур'ёзную фірму" па аказанні насельніцтву паслуг магаў, хірамантаў, экстрасэнсаў.

На адным з такіх сеансаў яны раяць жанчыне, якая заўважыла, што муж яе больш не любіць, развесціся з ім.

Хто б ведаў, што гэтым мужам акажацца вядомы ў горадзе аўтарытэт Саша-пяшчотныя ручкі.

Пазбавіўшыся ў выніку разводу вялікай сумы грошай, ён ставіць "магаў" на лічыльнік...

Далей сюжэт фільма перарываецца. І гледачы ўбачылі толькі фінальную сцэну, дзе пад музыку маладзечанскага гурта "Happy Face" Саша-пяшчотныя ручкі выводзіць у лес пад Маладзечнам сваіх даўжнікоў, дзе яны самі сабе капаюць дол.

Далей усё адбываецца па законах баевікоў пачатку 2000-х. Перастрэлка, кроў, забойства... І ў канцы фільма застаецца толькі адно пытанне: куды дзець габелен з аленямі, які застаўся ў машыне.

Чаму так назвалі кіно, пакуль засталося невядомым.

### "Нават калі б у фільме была пасцельная сцэна, карціну б гэта не выратавала"

Ролю аўтарытэта выканаў вядомы маладзечанскі акцёр **Алег Чэчанеў.**

**– Як жа вам собіла трапіць у гэта кіно?**

– Рэжысёр фільма Ваня Бялкоў знайшоў мяне ў сацсетках, прапанаваў. А я чалавек мабільны, адкрыты да ўсіх авантюр, таму і пагадзіўся. Адно магу сказаць, што здымкі праходзілі значна весялей, чым атрымаўся гатовы прадукт.

Алег Чэчанеў прызнаўся, што пагадзіўся яшчэ і таму, што ідэя сама па сабе была цікавая.

– І ў сцэнары не было нічога такога, што пярэчыла б маім уяўленнем пра правілы маралі. Хаця, убачыўшы кіно, я зразумеў, што нават пасцельныя сцэны яго б не выратавалі.

У фільме шмат недарэчнасцяў. Пачынаючы ад таго, што ў люстэрцы адбіваецца апаратар з камерай, да таго, што з кішэняў акцёраў бачны тэкст сцэнара.

– За такія рэчы павінны адказваць рэжысёр, – кажа Алег Чэчанеў, – і дублі, калі спатрэбіцца, пераздымаць. Я хацеў, каб тэкст сцэнара далі на вычытку прафесіяналу-сцэнарысту. Не паслухаліся мяне. Як вынік – у карціне шмат лішніх, шматслоўных дыялогаў.

У фінале фільма героя Алега Чэчанева забіваюць рыдлёўкай.

– Ваня баяўся гэтага эпізоду. Акцёры ж вераць у забабоны. Маўляў, здымешся ў сцэне, дзе цябе забіваюць, і больш прапаноў здымацца ў кіно не будзе. Але паколькі я акцёр эпізадычных роляў у кіно, то да гэтай сцэны паставіўся спакойна. Чаго ж бы не паваляцца ў маладзечанскім лесе з рыдлёўкай у галаве.

**– Ці пойдзеце на поўны паказ фільма?**

– Не. Але калі ён з'явіцца ў сецьве, перагледжу эпізоды са сваім удзелам. Мне падалося, што я вельмі мітушуся ў кадры.

### Будучыня ў кіно? Добра, калі трапіць хоць на адзін местачковы фестываль

– А гэта мая песня, – штурхае ў бок падчас прэм'ернага паказу саліст гурта "Happy Face" **Аляксей Мумрык.**

Сіламі гэтага гурта быў запісаны асноўны саўндтрэк да фільма.

– Гэта наш першы досвед пісаць музыку для кіно. Але досвед цікавы.



Фота Наталлі ТУР.

Выканаўца ролі Сашы-пяшчотныя ручкі Алег Чэчанеў на прэм'еры фільма.

З Іванам Бялковым мы сябруем даўно, ён быў рэжысёрам нашых кліпаў. Івану спадабалася наша песня "Туман ярам".

Што датычыцца агульнага ўражання ад фільма, Аляксей быў настроены аптымістычна:

– Толькі пазітыўныя ўражанні засталіся ад прагляду. Так, гэта не міжнародны ўзровень кіно, але ж за смеласць Івану можна паапладзіраваць. Гэта сур'ёзная справа – зняць поўнаметражнае кіно. Што датычыцца будучыні для "Габеленаў з аленямі", то я магу выказаць здагадку, што Ваня адправіць яго на некалькі местачковых фестываляў. І гэта, у прынцыпе, усё.

### Крах на прэм'еры адбыўся таму, што я думаў пра іншы фільм

Рэжысёр фільма Іван Бялкоў прызнаўся, што работа над фільмам далася яму не проста:

– Магчыма, гэта таму, што па сюжэце фільма мы з сарказмам паставіліся да чорнай магіі, – жартуе Іван. – Сцэнар перапісваўся шэсць разоў. У верасні ўжо павінны былі пачацца здымкі, а сцэнара не было. А перад Новым годам у мяне накрыўся жорсткі дыск з амаль гатовым фільмам. І вось у суботу гатовы, змантаваны фільм мне так і не скінулі.

Іван расказаў, што спачатку ў яго з'явіўся гэты вобраз "Габеленаў з аленямі", а потым ужо ідэя фільма, сцэнар.

– Габелены з аленямі – гэта нешта такое з дзяцінства. Тое, што вісела ў бабулі на сцяне, тое, дзе фатаграфавалася не адно пакаленне адной сям'і. Пры чым ён у фільме? Пакуль расказваць не буду. Праз два тыдні, думаю, фільм яшчэ раз пакажам, тады стане ўсё зразумела.

На пытанне, чаму падчас паказу фільма было столькі недарэчнасцяў, Іван адказаў:

– Так адбылося таму, што я з Новага года стаў думаць пра іншы фільм. Трохі забыўся на "аленяў", за што яны мне і адпомсцілі.

Новы фільм Іван Бялкоў будзе здымаць па кнізе "Гісторыя Ліма надзвычайнага".

– Гэту кнігу чытаў мне бацька ў дзяцінстве, потым я колькі ні імкнуўся, не мог знайсці яе. Праз сацыяльныя сеткі знайшоў унука аўтара кнігі, ён даў згоду на тое, каб па кнізе быў пастаўлены фільм.

Лім – гэта камень аквамарын. Гісторыя завязаная на тым, каб раскрыць таямніцу, адкуль на камені з'явіўся надпіс Лім.

Здымкі новага фільма Іван плануе зладзіць у Марока.

А праз тыдні два ў "Рэд Бары" адбудзецца другі паказ фільма. Як абяцае рэжысёр, цяпер "без касякоў". Уваход вольны.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

### "Габелены ў лічбах"

**6** разоў перапісваўся першапачатковы сцэнар

Больш за **30** акцёраў былі занятыя ў здымках

**5** месяцаў доўжыўся здымачны працэс

Здымкі адбываліся ў **11** памяшканнях

**4000** долараў – бюджэт фільма.

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21013, 1982 г.в, 1,2Б. Т. (8-033) 6962074.*
- ВАЗ-2107, 1999 г.в, нядорага. Т. (8-033) 6265649.*
- ГАЗ-3309, 2006 г.в, турбадызель, грузавы, аўтафургон, б/у, прабег 77 000 км, добры стан. УП "Квінта-ЛТД" УНП 690244702. Т. (8-029) 6278076.
- Мерседэс-300Д, 1984 г.в, універсал, на хаду. Т. (8-0176) 763878, (8-044) 4997231, (8-029) 9098900.*
- Міцубісі-Карызма, 1995 г.в, 1,6 бензін, нядорага. Т. МТС (8-033) 6862629, Вэлком (8-029) 6865329, (8-0176) 741879.*
- Рэно-Меган-Сцэнік, 1999 г.в, 2,0 бензін, шэры металік. Т. МТС (8-029) 2602492, (8-01771) 68401.
- Сітраэн-Ксантыя, 1996 г.в, 1,9Д, цёмна-сіні, 5 дзв., 33 000 000 руб. Т. (8-029) 5511138.
- Сітраен-Ксара па запчастках, 2000 г.в. Т. (8-029) 6653394.*
- ФВ Т-2, 1989 г.в, 1,6 дызель, легкавы. Т. (8-029) 3187448.*
- ФВ-Таўран, 2004 г.в, 1,9Д,. Т. (8-033) 6353216.
- Хендай –Н-1, 2000 г.в, 2,5 дызель, мінівэн, серабрысты. 80 000 000 руб; ВАЗ-2121 "Ніва", 1980 г.в, 1,6 бензін, белы, 33 000 000 руб. Т. (8-029) 7626136.
- Хундай І-20 , 2010 г.в, з Германіі 1 год, цана 115 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 2786035.*
- Запчасткі б/у да ФВ-Т2, 1987 г.в, 1,7Д, грузавы. Т. (8-029) 1294363, (8-029) 5651407.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксваген-Цыгуян, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карнеаал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- **АЎТО** ў любым стане. Т. (8-033) 6062301.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*





**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Скарыны, 2, нядорага. Т. (8-029) 6911995.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маклядзечне. Т. (8-029) 6372633.*
- 2 сумежныя ўчасткі па 0,1040 га кожны ў садовым таварыстве "Дамашы", 1 км ад Маладзечна (напрамак – Смаргонь). Ёсць гаспабудовы. Цана дагаворная. Т. (8-029) 6365553 Вэлком. *
- 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Скарыны, 14-а, 47,9/29,8/6. Т. (8-029) 6932184.*
- 2-пакаёвая кватэра ў п. Чысць па вул. Багдановіча, 1-б, 1995 г.п, 2-гі паверх 4-павярховага дома, 52,4/30,5/8,2, 781 200 000 руб. Т. (8-029) 3604740.*
- 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна па вул. Скарыны, д.6, агул. пл. 50,6 кв. м, нядорага. Т. (8-029) 1441876.
- 2-пакаёвая кватэра, 2008 г., у Вілейцы, вул. Незалежнасці. Т. Вэлком (8-029) 9483968.
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вялікі Гасцінец, 119, цагляны дом 1980 г.п, 8/9 паверх, 64,4/39,1/7,7. Т. (8-029) 6411879.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Зеніт, 3 паверх. Т. (8-029) 7760346, (8-044) 4749439.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Тэрмінова. Нядорага. Т. (8-029) 2694696.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Заскавічах, 500 000 000 руб. Т. (8-0176) 744215 (пасля 19.00).*
- Гараж у ГБК №31 "Вялікасельскі" ў Маладзечне, на 2 машыны, плошча 75,9, з бетонным падвалам, цана дагаворная (нядорага). Т. (8-029) 8597976 МТС.*
- Дамы ў п. Партызанскім Вілейскага р-на: драўляны дом, 64 кв. м, 24 соткі, цэнтральнае ацяпленне; шлакабетонны дом, 84 кв.м, 13 сотак, цэнтральнае ацяпленне, усе выгоды. Т. (8-029) 8756247.*
- Дача ў в. Бяртошкі, 9 км ад Маладзечна, 25 сотак, лазня, гаспадарчыя пабудовы, новы калодзеж, 380 Вольт. Т. (8-029) 3811905.*
- Дача ў в. Чыжэвічы на Вілейскім вадасховішчы. Т. (8-029) 8718361.*
- Дом драўляны ў цэнтры Вілейкі. Т. МТС (8-029) 8590663.
- Дом па вул. Грыцаўца, 70/53/30, газ, выгоды, гараж. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом пад знос. Хлеў 6х8 пад знос. Добры стан. Цана дагаворная. Т. (8-01797) 32667.*
- Дом у в. Астраўляны Мядзельскага р-на Мінскай вобл. Побач Вішнеўскае возера. Ёсць гаспадарчыя пабудовы, калодзеж, склеп, сад, 2 участкі. Т. (8-029) 2766295, (8-01771) 44201.*
- Дом у в. Баяры, 4-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Зеніт, еўраремонт, новая мэбля, ці абмен на 1-пакаёвую. Т. (8-029) 3625163.
- Дом у в. Клідзеняты Смаргонскага р-на, участак 35 сотак, сад, агарод, склеп, калодзеж. Побач рака, возера, лес, горад – 2 км. Т. (8-0176) 769284, МТС (8-029) 7696386.
- Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*
- Дом у в. Насілава. Т. (8-0176) 544095, МТС (8-033) 6376110.
- Дом у Вілейцы, 6,7х8,8 м. ПП АН "Вецер перамен", г. Маладзечна, вул. Прытыцкага, 21-4. УНП 691887367. Т. (8-0176) 771333, МТС (8-029) 5751660, (8-029) 3161660.
- Дом у Каловічах Вілейскага р-на, з газам. Т. МТС (8-029) 7045093, Вэлком (8-029) 1825368, Лайф (8-025) 7451141.*
- Дом у Маладзечне па вул. Вілейскай,17, р-н Старое Места. 70 кв. м, газ, вада. Т. (8-029) 3333847.*
- Дом цагляны, газ, вада, туалет, ванна у доме, цёплы, участак, гараж. Т. (8-029) 5358791.
- Прадаецца ўчастак у 12 сотак з падмуркам 10*11 м, прыватызаваны. Добрая дарога ( асфальт да ўчастка ), усе камунікацыі падведзеныя (вада, святло, газ ) у г. Мядзел па вул. Піваварава. Прыгожае месца. Тэл. (8029) 605-10-94.
- Участак 25 сотак, 3 км ад Маладзечна, Цюрлёўскі с/савет, святло, газ, вада на вуліцы. Т. (8-029) 2631449.*
- Участак са старэнькім домам у Насілаве. Т. (8-0176) 542035.*

### МЯНЯЮ

- Дом на 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, не вышэй за 3 паверх. Т. (8-01771) 33273.

### ЗДАМ

- Памяшканне ізаляванае ў цэнтры, 32 кв. м, ці прадам. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*
- У арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*
- У арэнду магазін у Валожыне, у цэнтры горада. ІП Бандаравец А.А. УНП 690352380. Т. (8-029) 6109281.*

### НАЙМУ

- 2- ці 3-пакаёвую кватэру, дом, дорага. Т. (8-044) 5442245. Андрэй.

### ІНШАЕ

- Прадам павільён недабудаваны ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, каля Еўраопта. Т. (8-029) 5768392.*









## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- Фота і відэаздымка вяселляў, аблічбоўка відэакасет. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Грузаперавозкі, 20 тон, борт. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*
- Грузаперавозкі, БУС,1,5 тон. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*
- Мерседэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*
- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- **"ІТ-СЭРВІС", WINDOWS, НАСТРОЙКА І ЎСТАНОЎКА**. Антывірус. Дыагностыка і рамонт няспраўнасцяў. Рамонт ноўтбукаў. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Казлоў А.В. УНП 691290121. Т. (8-029) 2793339, (8-029) 9426172.*
- Абліцоўка пліткай. ІП Палянскі С.Н.УНП 691178588. Т. (8-029) 2500998, (8-044) 4829395.
- **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. Пенсіянерам скідкі. Водасцёкавыя сістэмы. Устаноўка бясплатная. Магчымая растэрміноўка. ІП Барысевіч А.П, УНП 690686296. Тел. (8-029) 1232842.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі**. ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*
- **ВЫКАНАЮ ЎКЛАДКУ ПЛІТКІ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ, ВЫРАЎНУЮ СЦЕНЫ.** Якасць гарантую. Досвед працы. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*




Фота забяспечана Анатолем ПРЫЦАМ.

Аляксандр Міклуш, вучань Нароцкай сярэдняй школы, зрабіў мадэль ракеты.

## Хто з вучняў лепшы ў тэхнічнай творчасці

ВІЛЕЙКА

**Гэта вызначалі 13 лютага ў раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**

Тут адбылася абарона творчых работ раённага конкурсу тэхнічнай творчасці вучняў "Думаем. Ствараем. Вынаходзім".

На конкурс прапанавалі 19 прац. Сярод іх мадэлі караблёў, ракет, машын...

Сярод найбольш цікавых метадыст цэнтра **Анатоль Прыц** назваў мадэль ракеты, якую зрабіў вучань Нароцкай сярэдняй школы **Аляксандр Міклуш**.

– Яна адметная і па якасці выканання, і па тым, як аўтар яе абараняў, – расказвае Анатоль Прыц.

Хлопец перамог у секцыі "Тэхнічнае мадэляванне". Трэцяе месца тут занялі **Юльян** і **Дзмітры Гісічы** з Асіпавіцкага сада-базавай школы.

Яшчэ адну цікавую мадэль, ракетнага комплексу "Топаль", змайстраваў **Данііл Гнацэнка** са Сцешыцкага сада-сярэдняй школы. У выніку – перамога ў секцыі "Тэхнічнае канструяванне". На другім месцы – **Віталь Таргачоў** з Людвіноўскай СШ.

**Юры Шышко** з Нароцкай СШ зрабіў узмацняльнік гукавых частот для мабільнага тэлефона і перамог у секцыі "Радыёэлектроніка, тэлемеханіка, аўтаматыка, робататэхніка". Другое месца на рахунку **Антона Цыпянкова** і **Мацвея Стацюка** з Залескага сада-сярэдняй школы. На трэцім месцы – навучэнец цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Максім Крупскі.**

У секцыі "Мультымедыйныя тэхналогіі" першае і другое месцы занялі адпаведна **Мікіта Гарбузоў** з сярэдняй школы №3 і **Вольга Шкадзінская** з сярэдняй школы №1 Вілейкі.

У секцыі "Навуковыя даследаванні, эксперымент, энергазберагальныя тэхналогіі" першае месца журы прысудзіла **Кірылу Дубаневічу** з Людвіноўскай СШ.

Лепшыя работы накіруюць на абласны этап рэспубліканскага конкурсу "Тэхнаінтэлект".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Новую школу на Мядзельшчыне плануюць адкрыць 1 верасня

МЯДЗЕЛ

Цягам гэтага года на Міншчыне запрацуюць тры новыя ўстановы адукацыі. Сярод іх – сярэдняя школа ў курортным пасёлку Нарач (Купа) на Мядзельшчыне

"1 верасня павінна быць уведзеная ў строй сярэдняя школа на 510 месцаў у пасёлку Нарач Мядзельскага раёна", паведаміла начальнік упраўлення адукацыі Мінаблвыканкама **Галіна Казак**, перадае БелТА.

Будаўніцтва новай школы ў курортным пасёлку Нарач пачалося ў снежні. Вядзецца яно ўмікрараёне "Аэрапорт".

Цяперашняя сярэдняя школа ў пасёлку разлічаная ўсяго на 200 вучняў, і займаюцца ў ёй у дзве змены.

У новай школе будуць вялікая спартыўная і трэнажорная залы, а таксама прасторныя актавая і абедзенная, стадыён.

**Аддзел інфармацыі.**

## Азнаёмяць школьнікаў з прафесіямі

ВІЛЕЙКА

На базе Вілейскага дзяржаўнага каледжа арганізаваная профільная адукацыя "Уводзіны ў прафесію". Прызначаная яна для вучняў 8-х і 9-х класаў школ Вілейшчыны.

Праграма навучання разлічаная на 38 гадзін. Дзяўчаты азнаёмяцца з асновамі такіх прафесій, як цырульнік, візажыст, майстар па манікюры, швачка, кухар, а юнакі – слесар па рамонце аўтамабіля, кіроўца аўтамабіля, зваршчык. Заняткі праводзяцца па суботах.

**Святлана МАЦУКЕВІЧ,**
**культарганізатар каледжа.**



Як будуць сёлета віншаваць Ульяну дочкі Віялета (злева) і Нэлі, для яе гэта пакуль сюрпрыз. Фота забяспечанае Ульянай ПЕТУХОВАЙ.

# Жанчына, якая нарадзілася 29 лютага:

## "Мама пайшла на фільм 10 негрыцянят, таму і нарадзіла мяне раней"

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанка Ульяна Петухова адзначае свой дзень нараджэння 29 лютага.**

"Рэгіянальнай газеце" Ульяна расказала, што калі ў календары ёсць дата 29 лютага, яна абавязкова адзначае гэты дзень, як юбілей.

– Хаця звычайна свой дзень нараджэння я святкую 1 сакавіка. Цікава, што і нарадзіцца я была павінна ў сакавіку. Але 28 лютага мая мама пайшла ў кінатэатр "Спадарожнік", там ішоў фільм "10 негрыцянят". Відаць, мама так моцна ўразілася фільмам, што на наступны дзень у 10 раніцы яна нарадзіла мяне.

Ульяна прызнаецца, што яна прывыкла да таго, што ўсе здзіўляюцца, калі даведваюцца, што ў яе такая рэдкая дата нараджэння.

– Хаця я асаблівае сябе нейкай выключнай не лічу. Хіба што мае сябры да гэтага вызначыцца не могуць, калі мяне віншаваць. Адны лічаць, што я нарадзілася ў апошні дзень зімы, значыць, і віншаваць трэба 28 лютага. Другі лагер сяброў лічыць, што раней віншаваць нельга, і віншуе мяне 1 сакавіка.

**– А ў гараскопах пішуць, што ў такі дзень нараджаюцца таленавітыя і шчаслівыя людзі.**

– Ну, я ў гараскопы веру толькі тады, калі ў іх напісанае нешта добрае. А наконт таленту... Так атрымалася, што я як пачала займацца танцамі ў трэцім класе, то працягваю імі займацца і цяпер. Ну і, напэўна, гэта шчасце, калі хобі дзяцінства стала тваёй працай.

Яшчэ адно хобі Ульяны – гэта шыццё.

– Магу і свайму танцавальнаму калектыву "Дзіва" сшыць які аксэсуар для выступлення. Яшчэ я выкладаю танцы ў школе №4, таму і свайм выхаванцам даводзіцца шыць касцюмы. А калі ў мяне нарадзіліся дачушкі **Нэлі** і **Віялета**, то маё хобі выйшла на новы ўзровень. Цяпер вельмі люблю ім шыць аднолькавыя сукеначкі.

А наконт шчасця, для Ульяны яго формула вельмі простая:

любімая праца + цудоўны муж + дзве выдатныя дачушкі = сапраўднае шчасце.

**Наталля ТУР.**

## Віляйчан узнагародзілі на Гаазаўскіх чытаннях

ВІЛЕЙКА

Чытанні гэтыя прысвечаныя **Фёдару (Фрыдрыху-Іосіфу) Гаазу**. Прозвішча на першы погляд зусім невядомае. Але ж гэта даволі вядомы чалавек. Рускі доктар нямецкага паходжання, філантроп, вядомы пад імем "святы доктар". Фёдар Гааз (1780-1853), член Маскоўскага турэмнага камітэта і галоўны доктар маскоўскіх турмаў, прысвяціў сваё жыццё палягчэнню долі асуджаных і ссыльных. Па яго ініцыятыве адкрылі турэмную бальніцу і школу для дзяцей арыштантаў. Ён пастаянна прымаў і забяспечваў лекамі бедных хворых. На дабрачынnasць сышлі ўсе яго зберажэнні. Рымска-каталіцкая царква пачала працэс беатыфікацыі (першая ступень да кананізацыі – прылічэння да ліку святых) доктара Гааза.

У Гомелі гімназія №58 з мастацкім ухілам носіць яго імя. Кожны год з'язджаюцца сюды вучні і настаўнікі з усёй Гомельскай вобласці і Пецярбурга. У гэтым годзе трапілі на навукова-даследчую канферэнцыю настаўнікі і вучні гімназіі №1 "Логас". На вочны тур прайшлі дзевяць даследчых работ, адна літаратурная і дзве мастацкія.

13 лютага каманда гімназіі адправілася на Гаазаўскія чытанні. На канферэнцыі працавалі 11 секцый і мастацкая выстава. У кожнай – па 12-14 работ. Вучні прадстаўлялі свае работы індывідуальна, без дапамогі кіраўнікоў. Але вучні "Логаса" паказалі сябе і здзівілі гамяльчан.

Дыпломам першай ступені ўзнагародзілі **Кацярыну Балуш**, **Юлію Уласенку** (кіраўнік **Л. А. Бародзіч**) з работай аб Міхале Клеафасе Агінскім. Дзяўчынкі не толькі расказалі пра сувязь вядомага кампазітара з Вілейшчынай, але і ўразілі журы свой ігрой на фартэпіяна. А **Валерыя Сопрых** здзівіла журы лялькамі, пашытымі сваімі рукамі.

Дыплом другой ступені і шматлікія падарункі атрымала з рук протаіерэя айца Вадзіма **Дар'я Вярбіцкая**. Яна прадставіла работу пра вілейскі храм – "Свята-Марыінская царква". Дыплом трэцяй ступені ў аўтара работы "Зніклыя вёскі" **Ірыны Адамовіч**. Упершыню выступалі на канферэнцыі **Святлана Кірый**, **Карына Пагуда** і **Аліна Козел**, і гэтак жа паспяхова. Яшчэ тры пахвальныя лісты ў скарбонцы нашай каманды, дзве падзякі і ўдзел у выставе ў мастакоў **Таццяны Волкавай** і **Яўгена Рамановіча**.

**Алена МАЧЭЛЬ,**
**Вілейка.**

# Мястэчка Маркава, якому 600 год

## Міжваенны час і пачатак Другой сусветнай

*Працяг.*
*Пачатак у нумарах 3, 4, 5, 6, 7, 8.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Маркава здаўна з'яўлялася своеасаблівым цэнтрам уплыву нашага краю, вакол якога сыходзіліся інтарэсы навакольных паселішчаў. Летась мястэчка справіла сваё 600-годдзе.**

Устойліва развівалася гаспадарка, была стабільнасць, цвёрды курс злотага спрыяў гандлю. Хто больш працаваў, той і меў больш. Паступова прызвычаіліся да польскіх парадкаў. Гэтае дапасаванне да зменаў улады, падобна, зрабілася з часам рысай характару местачкоўцаў.

Да жыхароў іншых навакольных вёсак маркаўцы ставіліся з лёгкай паблажлівасцю, заўсёды трошкі пад'ялдыквалі і падсмейваліся з іх, бо мелі здаровы комплекс такой асаблівай местачковай "сталічнасці". Такая адметнасць трывала да канца 20 стагоддзя.

1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна. Некаторых месцічаў паспелі мабілізаваць ў Войска Польскае. Згодна з пактам Молатава-Рыбентропа, які падзяліў землі Беларусі на савецкую і нямецкую сферы ўплыву, 17 верасня насустрач немцам з усходу выступіла Чырвоная Армія. Палякі не маглі доўга супраціўляцца і на загад свайго вышэйшага камандавання адразу здаліся.

Новая ўлада, ці бальшавікі, як іх звычайна называлі месцічы, сталі пераконваць жыхароў у сяброўстве з немцамі, з новымі "сябрамі па зброі", што зусім збіла з панталыку людзей. Яшчэ добра памяталі нямецкую акупацыю 1918 года, і было незразумела, чаму раптам немцы сталі лепшымі сябрамі бальшавікоў.

З прыходам чарговых "асвабадзіцеляў" спачатку былі спадзяванні, што стане лягчэй жыць – усё ж такі рускія людзі, мова больш зразумелая. Справа аднак пайшла ў зусім не чаканым кірунку.

**По ўспамінах жыхароў перш за ўсё "асвабадзілі" краму ад прадуктаў і іншых тавараў.**

З гэтага моманту пачаўся карэнны незваротны пералом у гісторыі Маркава, у свядомасці яе жыхароў. Было нялёгка, а стала яшчэ горш. Людзей сталі душыць падаткамі. Упершыню гаспадары двароў сутыкнуліся з дзейнасцю НКВД. Замест чаканых з Усходу "свободы, равенства, братства" прыйшлі арышты, рэпрэсіі. Было страшна.

З матэрыялаў філіяла дзяржархіва Мінскай вобласці ў Маладзечне:

"Докладная записка зам. прокурору Бел. ССР по спецделам т. Нароенко "О работе спецотдела Вилейской областной прокуратуры за 1940 г." (Вілейская вобл. – ад 1939 г. да 1944 г.)".

"За отчётный период работы прошло следственных дел по состоянию на 1-е янв. 1941 г. – 4 705 дел с количеством лиц – 5 051 человек…".

Столькі пакалечаных лёсаў, трагедый. Людзі жылі, працавалі, прыйшлі саветы і пачалі вывозіць людзей у лагеры, аб'яўляючы "ворагамі народа". Іх сем'і, жонак і дзетак, вывозілі ў стэпы Казахстана і кідалі на волю лёсу. Трапілі пад "следственные дела" і заможныя маркаўцы, перш за ўсё тыя, хто больш працаваў, купляў зямлю, меў добрую гаспадарку.

Паводзіны "асвабадзіцеляў" вельмі трывожылі маркаўчан.

Пачаліся перадзелы зямлі, сваркі, пераконванні ў выгадзе калгаснага ладу жыцця. На загад улады з двароў неслі для агульнага карыстання свой рыштунак. Былі ўведзеныя немалыя падаткі амаль на ўсе асноўныя прадукты. Каб хоць неяк іх захаваць, сталі гнаць самагонку, за якую ў польскі час быў прадугледжаны вялікі штраф або адсідка ў даўгавой турме з выкананнем грамадскай працы.

З прыходам "першых саветаў" у 1939 годзе мястэчка з багатым і незвычайным мінулым паступова стала ператварацца ў звычайнае паселішча, знікаў былы местачковы лад жыцця, на змену якому прыйшоў новы "порядок".

Калгас аднак да вайны стварыць не паспелі.



Фота забяспечанае Сяргеем КАСМАЧОМ.

**На гэтым здымку – вучні 3-га класа Маркаўскай польскай школы. 1934 год. Крайні справа ў верхнім радзе стаіць настаўнік, другая справа ў сярэднім радзе сядзіць мама аўтара Марыя. На адваротным баку здымка напісаны пасвячэнні аднакласніц маме з прозвішчамі і імёнамі. У арыгінале:**
- **Milej i najukochanszej Kolezance Syrohwaszowna Klaudia;**
- **Sympatycznej i milej kolezance Kusmierzowna Stasi;**
- **Nigdy nie zapomne o Tobie kolezanco drogo Kusmierzowna Kasia;**
- **Ukochany Kolezance Szymanowna Maria;**
- **Szczerej i serdecznej Kolezance Lida Halkowna;**
- **Najukochanszej mej kolezance Balinska Stasia Balinska Antonina;**
- **Na Pamiath Kochanej kolezance Wierzacka Luba;**
- **Marysiu kochana Lipinska Regina;**
- **Milej i najukochanszej Lapcudowna Anna.**

У 1939 годзе бальшавікі польскую школу ў Маркаве ліквідавалі, вучні сталі наведваць школу ў Беніцы. Вучыліся там дзеці і з навакольных вёсак. У 1950-х гадах беніцкая школа была ліквідаваная.

### Другія немцы

Бяда адна не ходзіць – на змену аднаму "порядку" прыйшоў другі "ordnung". Па сведчанні жыхароў Маркава, не было ні баёў, ні геараічных подзвігаў савецкіх салдат – было адступленне, больш падобнае на ўцёкі.

Нямецкая акупацыя сталася яшчэ горшай за савецкую. Але ж і дзецца не было куды.

Пачатак вайны быў страшны, мястэчка бамбілі, гарэлі дамы. Згарэла і пачатковая школа. Некаторыя жыхары з роспачы хадзілі да кінутага спіртзавода ў Маліноўшчыне, які да прыходу немцаў быў цалкам разрабаваны. Першая хваля наступлення хутка прайшла ў бок Мінска, і ў далейшым па шляху праз Маркава пастаянна праязжалі калоны машын з вайскоўцамі. Асабліва не затрымліваючыся, ішлі абозы.

Працяг будзе.



Сяргей КАСМАЧ,
Маладзечна.

КАЛЯНДАР

**28 ЛЮТАГА**

**1616 год.** Памёр Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага, падарожнік-мемуарыст.

**1916(?) год.** У Вільні выйшаў першы нумар беларускай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Гоман" ("Homan"), выдавалася лацінкай і кірыліцай да канца 1918 года.

**1 САКАВІКА**

**65 гадоў** з часу ўводу ў дзеянне (1951) у Скідзелі першага ў Беларусі цукровага завода (цяпер адкрытае акцыянернае таварыства "Скідзельскі цукровы камбінат").

**1566 год.** Набыў законную сілу Другі Статут Вялікага Княства Літоўскага.

**1581 год.** Створаны Галоўны літоўскі трыбунал — вышэйшая судовая і апеляцыйная ўстанова ў Вялікім Княстве Літоўскім.

**85 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Пасюкевіча (1931 – 2009), жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**2 САКАВІКА**

**1896 год.** Нарадзіўся Станіслаў Глякоўскі, каталіцкі духоўнік, грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст. Загінуў у Бухенвальдзе. Жыў у Вільні, Мінску (з ліпеня 1941). У час нямецкай акупацыі ў Мінску займаўся рамонтам касцёлаў, арганізаваў беларускае каталіцкае душпастырства; пачаў выдаваць беларускамоўную каталіцкую літаратуру. У канцы 1920-х гг. быў старшынёй беларускіх скаўтаў пры Віленскай беларускай гімназіі, ў якой выкладаў Закон Божы.

**3 САКАВІКА**

**2010 год.** У Вілейцы памёр Анатоль Рогач, выдатны краязнаўца, майстар спорту Беларусі па шашках, аўтар кнігі "Нарачанка і яе берагі". Нарадзіўся ў вёсцы Каралеўцы 1 чэрвеня 1947 года.

**СЁЛЕТА:**

**210 гадоў** назад (1806) у гістарычным цэнтры Валожына на беразе ракі Валожынкі па праекце архітэктара А.Касакоўскага пабудаваны палац, цяпер ён знаходзіцца на плошчы Свабоды, выкарыстоўваецца адміністрацыйнымі ўстановамі.

**150 гадоў** назад (1866) у Валожыне пабудаваная царква Канстанціна і Алены, з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства;

у цэнтры Гарадзілава Маладзечанскага раёна з цэглы і бутавага каменя пабудаваная царква святога Іосіфа – помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# ЭСЭ школьнікаў рэгіёна

## для конкурсу "РГ"

На наш конкурс для школьнікаў "Напішы эсэ і выйграй смартфон" свае работы даслалі сем вучняў.

Па дзве работы з Людвінова і Маладзечна, па адным эсэ даслалі з Ілы, Вілейкі і Смаргоні.

Сярод удзельнікаў шэсць дзяўчынак і адзін хлопчык – Дзмітры Брыль.

Самая малодшая ўдзельніца – 4-класніца Юля Ярашонак з Ілы. Самая дарослая – 11-класніца Маладзечанскай гімназіі-каледжа Ганна Шакель.

Усе дасланыя эсэ рэдакцыя апублікоўвае ў газеце і на сайце выдання rh.by.

25 лютага на сайце мы адкрываем форму для галасавання, праз якую вы можаце прагаласаваць за таго ўдзельніка конкурсу, якому жадаеце перамогі. Галасаванне мы закрыем 28 лютага.

А пераможцу запросім на ўзнагароджанне, якое адбудзецца 1 сакавіка на курсах "Мова нанова" ў Маладзечне. Курсы праходзяць па адрасе: Вялікі Гасцінец, 121.

Пераможца атрымае ў падарунак ад рэдакцыі смартфон.

"Рэгіянальная газета" як адзінае беларускамоўнае выданне Павілля ладзіць конкурс эсэ для школьнікаў з мэтай падтрымкі беларускай мовы ў сферы адукацыі рэгіёна, а таксама сярод моладзі і нашых чытачоў.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пытанні без адказаў, або Зварот да невядомага сябра

Давай, мой невядомы сябар, пагутарым з табой пра Беларусь. Што ты ведаеш пра гэтую краіну?

Як? Ты ніколі не быў у Беларусі?

Не купаўся ў нашых азёрах і не ведаеш прыгожую легенду пра ўтварэнне Нарачы?

Не бачыў велічных беларускіх зуброў і не чуў, як спякотным летам клякочуць буслы?

Няўжо ты ніколі не падарожнічаў па прыгожым сучасным Мінску, старажытным Полацку і гераічным Брэсце і не быў на Машэкавым кургане ў Магілёве?

А замкі ў Нясвіжы і Міры? Сынковіцкая царква? Руіны ў Крэве? Іх ты таксама не ўяўляеш?

Ты не чытаў твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў пра славутых Рагвалода і Рагнеду, нястомную Ефрасінню, таямнічага Усяслава Чарадзея, вялікага Вітаўта, вядомага Скарыну?

Не ведаеш пра цудоўныя вершы і трагічны лёс паэта Максіма Багдановіча? Не чытаў цікавых твораў Якуба Коласа? І будзеш здзіўлены, калі пачуеш, што зусім недалёка ад маіх родных мясцін нарадзіўся славуты Янка Купала?

Ты не слухаў паланэз Агінскага "Развітанне з Радзімай"?

Не скакаў праз купальскае вогнішча?

Не прымяраў беларускую вышыванку?

Ты не еў дранікаў?!

Ну, тады я шчыра зайздрошчу табе, мой невядомы сябар. Бо ў цябе яшчэ ўсё гэта наперадзе. Вядома, калі ты пажадаеш прыехаць у Беларусь.

**Юля ЯРАШОНАК,**
**4 клас Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаца.**

## Дзень, які змяніў маё жыццё

На ўроку падымаліся такія пытанні, як "Што такое шчасце" або "Як вы ўяўляеце сваё шчасце".

Было шмат меркаванняў і варыянтаў, што ж гэта за звер такі, і якое яно, шчасце ў розных людзей? А потым нас спыталіся, ці шчаслівыя інваліды? І ў класе наступіла цішыня. Сапраўды, ці можа быць шчаслівым чалавек, якога з самага нараджэння прывучылі, што ён не такі, як іншыя? Што ён белая варона сярод чорных? Які можа быць чалавек, на якога глядзяць з нейкім грэблівым выразам твару? Ці могуць яны быць шчаслівымі? Яны, якія не такія, як іншыя? Мы не ведаем.

Свае пачуцці можна схаваць за ўсмешкай. Фальшывай усмешкай. Схаваць іх за маскай абыякавасці. Зрабіць выгляд, што табе ўсё роўна, што табе ўсё абыякава. Але ж недзе там, у душы, цябе не будзе пакідаць думка "А ці ж шчаслівыя яны, тыя людзі?".

Мы прывыклі кожную раніцу надзяваць маскі. Не звяртаць увагі на праблемы іншых. Ісці, ісці ўперад, не звяртаючы ўвагі ні на што. Ламаць маленькае жыццё, наша ўласнае жыццё, нават не заўважаючы гэтага. А потым… Потым паўстае пытанне: куды ж коціцца гэты свет? І што будзе заўтра?

...А ўсё ж пачыналася з такога наіўнага, дзіцячага пытання, на якое часам не можа адказаць і дарослы.

**Сняжана ЗАХАРЭВІЧ,**
**8 клас, Людвіноўская школа Вілейскага раёна.**

## Што я раскажу пра свой край чалавеку, які ніколі не быў у Беларусі

У нашай краіне мноства рэк, азёр. Беларусь так і называюць – краіна сініх рэк і азёр. Лясы – наша багацце – шчодра абдорваюць ягадамі, грыбамі. У Белавежскай пушчы жывуць асілкі-зубры ды іншыя рэдкія жывёлы і птушкі: барсук, рысь, чорны бусел, сава балотная, шэры журавель.

Мая краіна мае славутае мінулае. Часы Вялікага Княства Літоўскага называюць "залатым векам" Беларусі. Вядомыя дзеячы палітыкі, права, мастацтва, а таксама знатныя ваяводы прадстаўлялі дзяржаву з сусветным імем: канцлер Леў Сапега, Мікалай Радзівіл Чорны, Францішак Скарына, гетман Хадкевіч.

У Беларусі шмат старажытных мясцін: замкі ў Міры, Навагрудку, Лідзе, Камянецкая вежа, Сафійскі сабор, мноства старых касцёлаў.

Зусім недалёка ад Маладзечна ёсць сядзіба кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага.

Шмат чаго пра Беларусь я яшчэ не ведаю, але абавязкова буду пазнаваць, шукаць, вандраваць.

**Дзмітрый БРЫЛЬ,**
**вучань 5"Б" класа**
**СШ №1 Маладзечна.**

**Галасаванне за лепшае сачыненне будзе ісці ад 25 да 28 лютага на сайце "Рэгіянальнай газеты"**

Rh.by

## Галоўны скарб Беларусі

*"– Якія мясціны Беларусі Вы найбольш любіце і ведаеце?*

*– Люблю ўсе месцы на Беларусі. Ведаю таксама ўсе. Некаторыя болей, некаторыя меней. Найбольш – Прыдняпроўе, Палессе, Прыдзвінне, Наваградчыну… А ўсе ведаю і ўсе люблю. І яшчэ Далёкі Усход, Украіну, Урал, горны Крым і Каўказ. І, пасля Беларусі, больш за ўсё – мора. І іншыя краіны люблю...*

*Ведаць – гэта адзінае вартае на зямлі. Пасільна ўмець – другое. А ведаць і ўмець – гэта і ёсць фундамент чалавека, якім ён, чалавек, павінны быць".*

Магчыма, многія не здагадаюцца, з якога інтэрв'ю я прывяла гэты ўрывак. Дык вось менавіта так адказаў на зададзенае пытанне Уладзімір Караткевіч, які быў упэўнены, што самая цікавая навука – гэта жыццё. Менавіта з нарыса Караткевіча "Зямля пад белымі крыламі" і ўвогуле з усёй яго творчасці я змагла набыць самыя разнастайныя веды пра Беларусь, маю Радзіму.

Запалі ў душу словы пісьменніка, якімі ён заканчвае свой нарыс: "Любіце гэтую сваю святую зямлю аддана і да канца. Іншай вам не дадзена, дый не трэба. Але калі вам, дарагія мае дзяўчаты і хлопцы, захацелася пасля прачытанай кнігі прайсці па шляхах нашай Беларусі, нашай зямлі пад белымі буслінымі крыламі, пахадзіць гэтымі дрымучымі дубровамі, праплысці гэтымі поўнымі рэкамі – буду лічыць, што работа мая зроблена. Буду шчаслівы".

І мне, сапраўды, захацелася адправіцца ў падарожжа па шляхах Беларусі, наведаць усе яе славутыя мясціны, а яшчэ завітаць і ў глухія беларускія вёскі ў пошуках носьбітаў традыцыйных беларускіх песень і танцаў. Але дзе ж пабываць у першую чаргу? У якія мясціны можна запрасіць сяброў, гасцей з-за мяжы?

Напэўна, мой аповед пра Беларусь чалавеку, які нічога пра яе не ведае, быў бы не карацейшым за казкі "Тысячы і адной ночы". Але перш за ўсё мне як ураджэнцы Маладзечна хочацца ўспомніць пра Маладзечанскі замак – цэнтр абароны сярэдневяковага Маладзечна, які быў пабудаваны на беразе Ушы і існаваў у 14-18 стагоддзях. На месцы замка засталіся толькі земляныя валы. Чытала, што запланавана добраўпарадкаванне тэрыторыі Маладзечанскага замчышча. Ведаю, што і праект замчышча ўжо існуе. Вельмі хочацца спадзявацца на тое, што яго атрымаецца аднавіць і яно стане папулярным, вядомым, і будзе там і горад майстроў, і батанічны сад, і адновяць канал…

Неверагодна вабіць да сябе гістарычная спадчына Беларусі, якая жыве на дне больш чым пяцідзесяці азёраў, якая схаваная нейдзе на старым замчышчы або пры алтары касцёла, што цераз дарогу, якая ходзіць па ўсіх вуліцах Браслава – горада, поўнасцю прасякнутага гісторыяй.

З Браславам вельмі моцна звязанае маё жыццё, а яшчэ мацней – жыццё маіх продкаў. Маім бацькам пашчасціла нарадзіцца ў гэтым азёрным краі. Хаця цяпер мы жывём у Маладзечне, карані нашай сям'і перапleценыя менавіта там. Калі прозвішча маё адзінае такое ў маладзечанскай тэлефоннай кнізе, то спіс Шакеляў у Браславе займае ажно некалькі старонак. Таму цікаўлюся браслаўскай гісторыяй і захапляюся мясцовымі краявідамі.

Лічыцца, што заснаваў Браслаў полацкі князь Брачыслаў, ад імя якога і пайшла назва горада. Ён пабудаваў тут свой замак. Варожа настроеныя суседзі дзякуючы яму не маглі прайсці праз Браслаў: сам замак стаяў паміж двух азёр, а далей яны чаргаваліся з дрыгвой і густым лесам.

У Браславе таксама ёсць цудадзейны абраз Маці Божай Браслаўскай, Валадаркі азёраў. Кожны год у жніўні сюды прыходзяць пілігрымы з усёй Беларусі і з замежжа. Касцёл, у якім можна пакланіцца гэтаму абразу, пабудавалі яшчэ мае прапрадзеды.

Вы спытаеце, чаму маё падарожжа звязанае толькі з замкамі, з гісторыяй. Дык зазначу, што пра ўсю Беларусь адразу не раскажаш. Цікавая ж у нас не толькі гісторыя, але незвычайная, чароўная і прырода.

Таму скажу яшчэ, што цудоўна пабываць на Нарачаншчыне: жыць у палатках, вудзіць рыбу, пісаць эцюды, фатаграфаваць – падобную прыгажосць наўрад ці дзе-небудзь яшчэ сустрэнеш. Мару павандраваць па Ушаччыне, не вялікіх лясных азёрах. Уражваюць сваёй магутнасцю і сталым спакоем нашы беларускія рэкі: Дняпро, Дзвіна, Нёман. Заўсёды дзіўлюся, як з дапамогай музыкі можна ствараць такія яскравыя вобразы, але твор беларускага кампазітара Аліны Безансон "Гоман Нёмана", які я іграю на цымбалах, на маю думку, не толькі сваёй дынамікай вельмі дакладна перадае рух хваляў ракі, але яшчэ і магічным чынам паказвае, што гэта рака – беларуская.

Мне вельмі падабаюцца радкі паэткі Н. Загорскай:

*Люблю цябе такой, якая ёсць,*  
*Зямля мая, зямля бацькоў святая, –*  
*Мая слязінка – са святла наскрозь,*  
*Маё прычасце, мой святлісты лёс…*  
*З табой і паміж бедаў я світаю.*

Мая Беларусь... Еўрапейская дзяржава – зялёны лісток на карце: замкі, лясы, пералескі, лугі, пушчы, рэкі, азёры…

Але ўсё адно галоўны скарб нашай зямлі – ЛЮДЗІ! Яны ўслаўляюць нашу зямлю, нясуць у свет добрае імя беларусаў. І найвялікшае шчасце для мяне – сустрэць людзей, поўных мудрасці, любові і адданасці Радзіме. Бо тады ты бачыш жывы прыклад сапраўднага беларуса, патрыёта сваёй Айчыны, і сам узбагачаешся духоўна.

"Ці задумваліся, які ён, беларус?... Што гэта за народ? Беларус якраз адрозніваецца шчодрасцю, заўсёднай гатоўнасцю прыйсці на дапамогу ў бядзе. Калі раней у каго на вёсцы здараўся пажар – вёска талакою ішла красці панскі лес, калі не было свайго, і за пару дзён ставілі пагарэльцу новую хату, дзялілася з ім жытам… Потым з кожнай хаты неслі рэчы: хто пасцілку, хто палатно, хто гаршкі. Галоўнае ў нашым характары – гасціннасць добрага да добрых" (Уладзімір Караткевіч "Зямля пад белымі крыламі").

І я заклікаю вас выхоўваць і захоўваць у сабе гэтыя рысы, пра якія піша Караткевіч, каб любы замежнік, нават толькі пазнаёміўшыся з вамі, адразу зразумеў, якая яна, Беларусь.

**Ганна ШАКЕЛЬ, вучаніца 11 класа Маладзечанскай гімназіі-каледжа мастацтваў.**



## Што я раскажу пра свой край чалавеку, які ніколі не быў у Беларусі

Што я магу расказаць пра свой край? О, шмат чаго! У майго роднага краю ёсць шмат легендаў і паданняў…

Мой любы горад Вілейка. Тут я нарадзілася, жыву, вучуся. А пачала б я свой аповед з Вілляінага хутара. Гэта адно з тых месцаў у Вілейцы, якое больш за ўсё мае легендаў. Побач з хутарам працякае рака Вілія. Яна ўзяла сваё імя ад Вілляны, якая плакала каля Сцяпан-каменя па сваім каханым, якога зачаравалі. Згодна з паданнем, са слёз Вілляны ўтварыўся невялікі ручаёк, які потым ператварыўся ў рэчку, вялікую і вілістую.

А наша Вілія цячэ не толькі па Беларусі, а таксама на тэрыторыі Літвы, дзе і завецца Нярыс. Літоўцы вельмі ганарацца ёю. Мы, віляйчане, таксама.

А далей мой расказ пра горад плаўна пераходзіць на нашу цэнтральную плошчу Леніна. Цяпер яна вельмі змянілася і стала сапраўдным помнікам архітэктуры. Сюды абавязкова прыходзяць госці нашага горада. Гэта любімае месца і моладзі, і сталых людзей. Крыжаўздзвіжанскі касцёл і царква Прападобнай Марыі Егіпецкай – два помнікі архітэктуры, якія не толькі ўпрыгожваюць наш горад, але і аб'ядноўваюць усіх прыхажан ужо больш за 100 год. Дрэва сяброўства, каляровы фантан, лавачкі для адпачынку, дрэўцы, кветкі і, канешне, помнік Леніну…

А далей парк. Які ён прыгожы ў розныя поры года! Асабліва апошнім часам, калі там з'явіліся героі розных казак. Скульптуры сталі найлепшым падарункам Валерыя Апарыка маленькім гараджанам.

Ідзём па вуліцы Савецкай – самай старажытнай вуліцы нашага горада. Помнік двойчы Герою Савецкага Саюза Азі Асланаву, танкавая брыгада якога вызваляла Вілейку ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Таксама вельмі знакамітая плошча Свабоды, у цэнтры якой ўзведзены помнік воінам-партызанам. Менавіта сюды прыязджаюць маладыя пары, каб пакласці кветкі і падзякаваць салдатам за мірнае неба над галавой. Тут жа, на плошчы, размешчаны Вілейскі краязнаўчы музей і выставачная зала… Сюды я абавязкова прывяду свайго іншагародняга сябра. Іменна ў музеі можна пазнаёміцца з гісторыяй і культурай вілейскага краю ад старажытных часоў да 21 стагоддзя.

А зараз сядзем на аўтобус і паедзем у адзіны ў Беларусі музей пад адкрытым небам "Памяці зніклых вёсак". Тут можна не толькі правесці экскурсію, пазнаёміцца з назвамі ўсіх вёсак, якія зніклі з карты нашага раёна, але і добра адпачыць на прыродзе, падыхаць чыстым лясным паветрам.

Напрыканцы нельга не сказаць пра наша Вілейскае вадасховішча. Яно з'яўляецца самым вялікім штучным вадаёмам у Беларусі. Дапамагае жыхарам Вілейкі і Мінска не застацца без вады. А яшчэ гэта самае любімае месца летняга адпачынку не толькі віляйчан, але многіх гасцей. А як не ўспомніць пра рыбалку! І зімой, і летам, і восенню, і вясной – кожны дзень можна сустрэць рыбакоў па берагах нашага любімага вадасховішча.

Наш горад хоць і маленькі, але вельмі прыгожы і прыемны для адпачынку. Таму шмат людзей прыязджаюць сюды, каб адпачыць. Перш за ўсё адпачыць душой. Калі вам надакучыла шумнае сталічнае жыццё і вы шукаеце месца для адпачынку, калі ласка! Запрашаем!

**Паліна ГАРДЗЕВІЧ, вучаніца 8 "Б" класа гімназіі №1 "Логас" Вілейкі.**

## Найлепшы сябар

*Найлепшы сябар той, хто, не пытаючыся пра прычыну твайго смутку, можа зрабіць так, што зноў вернецца радасць.* ***Св. Ян Боска.***

Напэўна, у кожнага чалавека ёсць сябар, сапраўдны сябар.

Магчыма, для таго, каб зразумець, хто можа лічыцца сапраўдным сябрам, трэба самому ім стаць.

На мой погляд, сапраўднымі сябрамі лічацца тыя людзі, якія заўсёды побач з табой і гатовыя даць слушную параду, дапамагчы ў цяжкую хвіліну. Сапраўдны сябар – гэта той, хто разумее цябе з паўслова, дыхае з табой адным паветрам, жыве адным жыццём, гэта той чалавек, на якога ты заўсёды можаш спадзявацца.

Верны сябар поруч і тады, калі ты робіш памылкі… Бо калі ў цябе ўсё добра, кожны будзе побач. А вось ілжывыя сябры падобны да ценю: плятуцца за табой, калі ты ходзіш па сонцы, і адразу пакідаюць цябе, калі ўступаеш у цемру.

Калі лёс асабліва схільны да чалавека і хоча адарыць яго найвялікшым шчасцем на свеце, ён дае яму вернага сябра. Мне вельмі пашанцавала, бо ў маім жыцці ёсць такі чалавек!

**Лізавета ЛАБКОВА, вучаніца 7 "А" класа СШ №7 г. Смаргоні.**

## Мой лепшы сябар

Мая лепшая сяброўка – Наташа. Разам мы гуляем, ходзім у школу, адна адной дапамагаем.

Чаму я з ёй сяброўю? Наташа – добрая. Заўсёды са мной чым-небудзь падзеліцца. Я таксама пра яе не забываю. Мы нават нарадзіліся ў адным месяцы і годзе. Наташа старэйшая за мяне ўсяго на некалькі дзён. У нас і думкі аднолькавыя.

Вось, напрыклад, быў такі выпадак. На ўроку працы я вырашыла зрабіць кветачку. Мне спатрэбілася сурвэтка. Наташа пра гэта пакуль што не ведала, але таксама пачала шукаць сурвэтку. Затым мне спатрэбілася шклянка, і сяброўка сваю дастала. Мы пераглянуліся і амаль разам спыталі: "Ты будзеш кветачку рабіць?", і ўсміхнуліся адна адной.

Сябрую я з ёй, таму што яна мне дапамагае, калі мне дрэнна. Нікому нашы сакрэты не раскрывае. Калі я не разумею нешта ў хатнім заданні, то Наташа заўсёды растлумачыць.

Нам разам вельмі добра. З такой сяброўкай ніколі не прападзеш. Сяброўства даражэй за многія каштоўныя рэчы і грошы!

**Кацярына ЖАРСКАЯ, вучаніца 5 класа Людвінаўскай СШ Вілейскага раёна.**

НАВІНЫ

## Выйгралі толькі астраўчане

**СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ**

У другім туры ў вышэйшай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе абедзве каманда з рэгіёна дома прайгралі.

"Вілія" са Смаргоні 21 лютага прайграла "Энергіі" з Зэльвы 4:6. "Ашмяны" саступілі ФСК "Гродзенскі" 8:11.

У турнірнай табліцы па-ранейшаму "Вілія" ідзе на трэцім месцы, "Ашмяны" – на шостым.

У першай лізе чэмпіянату вобласці "Меліяратар" з Астраўца выйграў у "Беллакта" 8:7. Каманда з Астраўца ўзнялася на трэцяе месца.

## Золата і бронза віляйчан на "Кубку сталіцы"

**ВІЛЕЙКА**

У Мінску 20 лютага прайшоў адкрыты рэспубліканскі турнір па традыцыйным каратэ "Кубак сталіцы-2016".

Удзельнічала каля сямісот спартсменаў з розных куткоў Беларусі: Брэста, Оршы, Барысава, Гродна, Мазыра, іншых гарадоў. Шмат каманд было з Мінска.

Удзельнічалі ў турніры таксама віляйчане.

– Выдатна правёў усе паядынкі **Дзмітры Стражнікаў**, – расказвае трэнер вілейскага клуба "Самурай" **Сяргей Кірыевіч**. – Крыху не хапіла, каб ён выйшаў у фінал: лічу, што і суддзі дапамаглі сапернiку. Дзмітры змагаўся ў паядынку за трэцяе месца і ўпэўнена перамог.

**Павел Кірыевіч** выступаў у катэгорыі 18 год і старэйшыя. За выхад у фінал выйграў паядынак 5:0 у свайго аднагрупніка з універсітэта фізічнай культуры.

У фінале адразу саступаў, потым усе ж перамог і ў выніку стаў чэмпіёнам.

Адзначыў Сяргей Кірыевіч дастойнае выступленне **Аляксея Шырочына.** Спартсмен змагаўся за трэцяе месца, але стаць бронзавым прызёрам не ўдалося: заняў чацвертае месца.

## Прадстаўнікі Вілейшчыны занялі прызавыя месцы ў суднамадэльным спорце

**ВІЛЕЙКА**

У Слуцку 10-12 лютага адбыўся першы этап абласных спаборніцтваў па суднамадэльным спорце і рэспубліканскія спаборніцтвы па суднамадэльным спорце "Гардэмарын-2016". Каманда Вілейскага раёна заняла трэцяе месца.

У асабовым заліку добрых вынікаў дасягнулі вучні Чурлёнскага садашколы, навучэнцы гуртка "Суднамадэліраванне" цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі пад кіраўніцтвам **Аляксея Роліча**.

У класе мадэляў Е-600 (копія ваеннага карабля або грамадзянскага судна даўжынёй да 600 міліметраў) першае месца заняў **Уладзімір Бурак**.

А **Ілля Роліч** на рэспубліканскіх спаборніцтвах па суднамадэльным спорце "Гардэмарыны-2016" у класе мадэляў F4-A (радыёкіраваныя мадэлі з набораў) заняў трэцяе месца.

За каманду раёна таксама выступалі **Уладзіслаў Шарафановіч, Юры Нор і Аляксей Анасовіч**. Пра ўсё гэта паведаміў метадыст цэнтра **Анатоль Прыц.**

## "Зубраня" атрымала пятую перамогу запар

**МЯДЗЕЛ**

На мінулым тыдні прайшлі тры гульні пятага тура чэмпіянату раёна па міні-футболе.

Каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму перайграла ФК "Юніян Нарач" 7:0.

Яшчэ большы лік быў у матчы "Зубраняці" з "Сілавіком" – 9:0 на карысць "Зубраняці".

Самай напружанай выдалася гульня "Юнацтва"-"Спадарожнік". Першым забіў гол "Спадарожнік". На перапынак каманды пайшлі пры ліку 1:1.

– У другім тайме ў гульцоў "Спадарожніка" было шмат момантаў, іх сапернікаў выручалі штанга і перакладзіна. Але "Юнацтва" здолела забіць другі гол і ўтрымаць пераможны лік, – расказаў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

## Крывіцкія вучні выйгралі чэмпіянат па валейболе

**МЯДЗЕЛ**

У райцэнтры 19 лютага адбыўся чэмпіянат раёна па валейболе ў групе "А" сярод школьнікаў. Удзельнічалі пяць камандаў, у якіх былі вучні 2001 года нараджэння і маладзейшыя.

Перамагла каманда з Крывічоў. На другім месцы прадстаўнікі Свірскага сада-сярэдняй школы, на трэцім – Мядзельскай СШ №1.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота vignette2.wikia.nocookie.net

Пакуль адны пішуць петыцыі ў падтрымку каманды, другія перажываюць за лёс футбола так. Адзінае, што радуе, абыякавым не застаецца амаль ніхто.

# Жарсці па футболе: маладзечанцы разбягаюцца,

## а Ашмяны ідуць у першую лігу

**МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ**

**Напярэдадні пачатку новага футбольнага сезона ў Маладзечне і не толькі разгараюцца сур'ёзныя баталіі.**

Па-ранейшаму не вырашанае пытанне з тым, ці будзе ўсё ж такі Маладзечна заяўленае ў другую лігу.

Загадчык сектара фізічнай культуры, спорту і турызму аддзела адукацыі Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Кавалёў** расказаў "Рэгіянальнай газеце", што меркавана ў чацвер адбудзецца сустрэча кіраўніцтва каманды і старшыні Маладзечанскага райвыканкама па пытаннях лёсу маладзечанскай каманды.

– Асабіста я не разглядаю такога варыянта, што каманды з Маладзечна не будзе на рэспубліканскіх спаборніцтвах. Канешне, усё ўпіраецца ў фінансы. Я разумею пазіцыю трэнера **Аляксандра Гармазы**, што ён не хоча падводзіць гульцоў. Давайце пачакаем пару дзён.

А пакуль Маладзечна чакае нейкага рашэння ад райвыканкама, маладзечанскія футбалісты пакідаюць каманду.

На сёння вядома, што **Уладзіслаў Фядотаў** будзе іграць за мінскую каманду "Іслач". За сталічны "Прамень" у гэтым сезоне будзе іграць **Ігар Талькоўскі.**

**Юры Бугай** і **Цімафей Ігруша** цяпер знаходзяцца на праглядзе ў футбольным клубе "Смаргонь", які гуляе ў першай лізе.

– Калі зацікаўлю трэнерскі штаб, – расказаў Цімафей Ігруша "Рэгіянальнай газеце", – то буду гуляць за Смаргонь. Для мяне гэта, вядома, кар'ерны рост. Таму што Маладзечна нават не думае заяўляцца ў першую лігу.

Яшчэ двое маладзечанцаў знаходзяцца на праглядзе ў камандзе з Ашмянаў.

– Толькі імёны я пакуль назваць не магу, – кажа старшыня футбольнага клуба "Ашмяны" **Іван Маліна**, – каб раней часу не злавацы вашага **Аляксандра Гармазу**.

### У Ашмянаў з Маладзечнам "незакончаны раман"

Іван Маліна шкадуе аб тым, што за мінулы сезон так і не ўдалося высветліць, якая каманда мацнейшая:

– У нас з Маладзечнам "незакончаны раман". Дзве гульні ў мінулым сыграныя ўнічыю. Шкада, што сёлета працягу дэрбі не будзе. Мы ідзём у першую лігу, а Маладзечна...

**– Адкуль у Ашмянаў грошы на заяўку?**

– 120 мільёнаў – гэта на сённяшні дзень не такія вялікія грошы. Цяпер мы збіраем неабходныя дакументы, каб прайсці працэдуру ліцэнзавання, грошы на заяўку ў нас ёсць. У першай лізе павінны іграць прафесіяналы са стабільным заробкам. Таму будзем прыцягваць спонсараў, сам клуб будзе зарабляць на рэкламе, на гандлі ў розніцу.

**– Гульцы ашмянскія?**

– Не. У Ашмянах і да сёння няма дзіцячай футбольнай секцыі. І да 2015 года, лічы, футбола у нашым горадзе не было. Хаця, маючы два такія выдатныя стадыёны, не мець каманды – гэта няправільна.

Сёння на праглядзе ў камандзе знаходзяцца 22 спартсмены.

– Гэта хлопцы з мінскага "Дынама", са Ждановічаў, некалькі чалавек з дубля БАТЭ, якія так і не зайгралі ў Барысаве, двое футбалістаў з Маладзечна.

**– Імёны так і не назавяце?**

– Пакуль рана гаварыць пра гэта. Трэніроўкі, фізічныя нагрузкі ў спартыўнай зале – гэта добра, але гульцоў трэба адбіраць у гульні. Вось у нядзелю і паглядзім.

У нядзелю, 28 лютага, на стадыёне ў Чысці адбудзецца таварыскі матч ФК "Ашмяны" супраць каманды "Крумкачы".

Пачатак сустрэчы ў 16:30.

**Наталля ТУР.**

**Чаму дарослыя дзядзечкі не могуць разабрацца з футболам у Маладзечне**

Я ўпэўнены, што пакуль у нашым горадзе не з'явіцца другі Генадзь Карпенка (у якасці кіраўніка раёна, якога-небудзь прадпрыемства і г.д.), то нічога добрага з камандай адбывацца не будзе. І, на мой погляд, пакуль няма крыніцы фінансавання, спрабаваць прыняць удзел у спаборніцтвах у першай лізе сэнсу ніякага няма. Узровень там вышэйшы за другую лігу, каманда павінна яму адпавядаць. Але мясцовыя ўлады павінны забяспечыць узровень фінансавання, неабходны для ўдзелу каманды ў другой лізе. Гэта нонсенс – адсутнасць на рэспубліканскіх спаборніцтвах клуба з нашага горада. Ды і для мясцовых гульцоў гэта шанец трапіць на вочы прадстаўнікам сур'ёзных клубаў і зрабіць кар'еру футбаліста. З.Ы. заўзець за "Іслач" не збіраюся. Для мяне, як для маладзечанца, на Беларусі ёсць толькі адна каманда – каманда майго горада (у незалежнасці ад таго, хто за яе гуляе). Выключэнне – беларускія клубы ў еўракубках.
***Балельшчык***.

● ТЭАТРЫ

# Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Кошкі-Мышкі**" (казка-гульня па матывах п'есы *Аркадзя Хайта* "Дзень нараджэння ката Леапольда")
3 сакавіка – у 12:00

"**Казка пра чырвоную стужачку**" (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), *Галіна Латышава, Алег Чэчанеў*
12 сакавіка – у 10:30

"**Парася, якое спявае**" (музычная казка-жарт у 2-х дзеях), *Сяргей Казлоў*
23 сакавіка – у 12:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Сямейны партрэт з пабочнай асобай**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Сцяпан Лабазёраў*
4 сакавіка – у 19:00

"**Чатыры навелы пра каханне**". *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*
11 сакавіка – у 19:00

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў *К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), Уладзімір Рудаў*
15 сакавіка – у 19:00

**УВАГА! ГЛЕДАЧЫ БУДУЦЬ СВЕДКАМІ ЮБІЛЕЮ – 10-ГОДДЗЯ СЦЭНІЧНАГА ЖЫЦЦЯ СПЕКТАКЛЯ**
"**Шукаю сапраўднага мужчыну**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Алена Папова*
18 сакавіка – у 19:00

**МІЖНАРОДНАМУ ДНЮ ТЭАТРА ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ПРЭМ'ЕРА!!!**
"**Плачу наперад**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Надзея Птушкіна*
27 сакавіка – у 17:00

"**Любоў па-італьянску**" (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы *Э. дэ Філіпа* "Цыліндр"), *Эдуарда дэ Філіпа*
29 сакавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.
УНП 600066659

# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Залатая табакерка**" (жартаўлівая казка), *А.Плютава*, бел.
28 лютага – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**
МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | 4 | | | 1 | | | |
| | | | | 5 | | | 8 | 7 |
| | | | | | | 4 | | |
| | 9 | | 2 | | | 5 | 4 | |
| | | 2 | | | | 9 | | |
| | 5 | 7 | | | 6 | | 3 | |
| | | 8 | | | | | | |
| 4 | 3 | | | 8 | | | | |
| | | | 6 | | | 1 | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● КІНО

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**" (3D, ЗША, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
28 лютага – у 16:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, прыгоды "**Кракнутыя канікулы**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
27 лютага – у 13:30
28 лютага – у 14:40
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Новыя прыгоды Аладзіна**" (3D, Францыя, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 лютага – у 17:30
27 лютага – у 15:20
28 лютага – у 12:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (ЗША, Канада, 2015, пасля 18 год)
26 лютага – у 22:00
27 лютага – у 17:30
1 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Прыгоды, фэнтэзі "**Богі Егіпта**" (3D, ЗША, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 лютага – у 19:40
27 лютага – у 22:00
28 лютага, 1 сакавіка – у 18:40
29 лютага, 2 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Камедыя "**Дзень выбараў 2**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
27 лютага – у 19:40
28 лютага – у 21:00
29 лютага, 2 сакавіка – у 18:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгодніцкая драма "**Дзяржаўная мяжа. Фільм 12-ы: Ілжывая цэль**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
29 лютага – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, меладрама "**8 лепшых спатканняў**" (Расія, 2016, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
3 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Мультфільм, баявік, камедыя "**Зверапаліс**" (3D, ЗША, 2016, без узроставых абмежаванняў)
3 сакавіка – у 18:40
Цана білета: 50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя, прыгоды "**Новыя прыгоды Аладзіна**" (3D, Францыя, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
27 лютага – у 12:30
28 лютага – у 13:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгодніцкая драма "**Дзяржаўная мяжа. Фільм 12-ы: Ілжывая цэль**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
26 лютага – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (ЗША, Канада, 2015, пасля 18 год)
27 лютага, 2 сакавіка – у 21:30



28 лютага – у 17:00
3 сакавіка – у 17:20
Цана білета: 55 000 рублёў

Чорная трагікамедыя "**ГараШ**" (Беларусь, 2015, пасля 16 год)
27, 28 лютага – у 15:40
29 лютага, 1 сакавіка – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды, трылер "**Гонар, перадузятасці і зомбі**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
26, 28 лютага – у 19:10
27 лютага, 2 сакавіка – у 17:00
29 лютага – у 21:40
1 сакавіка – у 19:20
Цана білета: 55 000 рублёў

Прыгоды, фэнтэзі "**Богі Егіпта**" (3D, ЗША, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26, 28 лютага, 1, 3 сакавіка – у 21:30
27 лютага, 2 сакавіка – у 19:10
29 лютага – у 19:20
Цана білета: 65 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**8 лепшых спатканняў**" (Расія, 2016, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
3 сакавіка – у 19:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя, прыгоды "**Новыя прыгоды Аладзіна**" (2D, Францыя, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 лютага – у 17:30
27 лютага – у 14:40
28 лютага – у 16:40
Цана білета: 25 000 рублёў

Прыгоды, фэнтэзі "**Богі Егіпта**" (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 лютага – у 19:30
27 лютага – у 20:40
28 лютага – у 14:40, 18:40
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (2D, ЗША, Канада, з 18 год)
26 лютага – у 21:30
27 лютага – у 18:40
28 лютага – у 20:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кракнутыя канікулы**"(3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
27, 28 лютага – у 13:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прыгодніцкая драма "**Дзяржаўная мяжа. Ілжывая цэль**" (Беларусь, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
27 лютага – у 16:50
Цана білета: 20 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Фэнтэзі "**Па-за часам**" (Аўстралія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
26 лютага – у 17:40
27 лютага – у 20:10
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**ГараШ**" (Беларусь, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
26 лютага – у 19:30
27 лютага – у 19:00
28 лютага – у 18:50
Цана білета: 20 000 рублёў

Прыгодніцкая драма "**Дзяржаўная мяжа. Ілжывая цэль**" (Беларусь, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
26 лютага – у 20:40
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Тэд Джонс і закінуты горад**" (Іспанія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
27, 28 лютага – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Каралеўства М +**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
27, 28 лютага – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Баявік "**Тачка №19**" (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
27 лютага – у 17:50
28 лютага – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэлефон для даведак:
(801771) **5-68-59**

● ГАРАСКОП

26 ЛЮТАГА-4 САКАВІКА

**Авен.** Ідзіце наперад і не спыняйцеся. Вас могуць адольваць страхі, можа ўзнікнуць нерашучасць, але памятайце – вочы баяцца, а рукі робяць. Кіруйцеся гэтым прынцыпам. У вас больш чым дастаткова сіл, умення і магчымасцяў, каб пераадолець любыя перашкоды.

**Цялец.** Спрыяльны перыяд для нейкіх пачынанняў, звязаных з работай і фінансавым станам. Але расходуйце свае сілы ў меру, не перастарайцеся. Дзейнічайце не на прамую, а ў абход, шукайце альтэрнатыўныя метады рашэння сітуацыі.

**Блізняты.** Гэты час добры для пазнання ўсяго новага, вывучэння навук ці сваёй асобы, самаўдасканалення.

**Рак.** Са здароўем не жартуйце, за ім трэба сачыць, а не правяраць арганізм на трываласць.

**Леў.** Для вас будзе сітуацыя, якая апісваецца кароткай фразай: пан ці прапаў. Сур'ёзна падумайце і дзейнічайце асцярожна, а можа нават, і перанясіце важнае рашэнне на іншы час.

**Дзева.** Спрыяльны час для навядзення дамашняй утульнасці, набыцця рэчаў, карысных у быце.

**Шалі.** Вывучайце новы для сябе напрамак дзейнасці, убірайце ў сябе чужую мудрасць і веды і не прапускайце гэты працэс, бо хутка вам прыйдзецца вытрымаць экзамен.

**Скарпіён.** У гэтыя дні адзіная сфера, дзе вы можаце сябе заняць, – інтэлектуальная. Можна займацца творчасцю, складаннем планаў і праўдзеннем разлікаў.

**Стралец.** Перыяд добры. Адчуеце прыліў сіл, жаданняў і імкненняў. Нападзе можа з'явіцца пуцяводная зорка, якая павядзе вас. Усё будзе на ура!

**Казярог.** Магчымыя перажыванні, рознагалоссі ці расставанні не такія ўжо страшныя і негатыўныя, як можа здавацца напачатку. Проста ваша шчасце знаходзіцца ў іншым месцы, і вам неабходна пакінуць тое, што вас мучыць, і спакойна, без болі ў сэрцы, ісці далей.

**Вадалей.** У сям'і не заўсёды будзе спакойна, але ўсё якасна зменіцца. Адзінокім думкі і сэрца змог заняць толькі адзін чалавек і, магчыма, што да восені вы вырашыце ўзяць з ім шлюб.

**Рыбы.** Клапаціцеся пра сваё здароўе, бо месяц да дня нараджэння і месяц пасля дня нараджэння лічацца самымі "хваравітымі".

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 27 лютага, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 / +1 | | -1 / +2 | | 0 / +2 | | 0 / +2 | |
| | 744 | ↘ 1 | 742 | ↘ 2 | 748 | ↑ 1 | 747 | ← 8 |
| Вільня | -1 / +2 | | -1 / +2 | | -1 / +2 | | -2 / +2 | |
| | 738 | ↗ 3 | 750 | → 4 | 756 | ↗ 3 | 738 | ← 8 |

Тэмпература паветра Ц; Воблачнасць, ападк; Ціск (мм рт. сл.); Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.06
Захад 18.44
Даўжыня дня 10.38

Усход 23.55
Захад 9.49
Квадра 3




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

НАРАЧ (КУПА)

Мінімальная тэмпература -17,3 °С у 2011 годзе
Максімальная тэмпература +8,3 °С у 2008 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,4 мм у 2002 годзе
Назіранні за 23 год. Паводле meteoinfo.by



## Чытайце праз тыдзень:

● **Ці ведаеце вы, што ў Вілейцы самая папулярная марка машыны – гэта ВАЗ, а па Маладзечне ездзяць 1200 "Запарожцаў". У наступным нумары "РГ" мы палічым усе транспартныя сродкі Маладзечанскага, Вілейскага, Валожынскага і Мядзельскага раёнаў.**



## Назвалі "Чалавека года-2015" на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

Ім стала начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва райвыканкама **Галіна Кажарновіч**.

Гэта рашэнне агучылі на раённым злёце перадавікоў народнай гаспадаркі раёна. Ён прайшоў 19 лютага ў Палацы культуры.

"Чалавека года" на Вілейшчыне выбіраюць ужо шмат год. Летась была старшыня грамадскага аб'яднання па садзейнічанні ўстойліваму развіццю Вілейскага рэгіёна "ЗОВіК" **Таццяна Цітуленка**. "Чалавекам года-2013" прызналі мастака **Эдуарда Мацюшонка**.

**Аддзел інфармацыі.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Як вы пачалі эканоміць на камунальных паслугах пасля павышэння цаны на іх?



**Вольга Васілевіч, у дэкрэтным адпачынку, Мураваная Ашмянка:**
– Ніяк не пачала эканоміць. З маленькім дзіцем эканоміць немагчыма. Павышэнне цаны асабліва не адчулі. Мы наймаем кватэру, і нам проста знізілі аплату ў лік камуналкі.



**Віктар Барыскін, менеджар аддзела продажаў, Маладзечна:**
– Павышэнне нязначнае. Эканоміць не пачынаў. І гатовы аплачваць 100% за камунальныя паслугі.



**Таццяна Пракурат, лагіст, Маладзечна:**
– Павышэнне цэн адчулі, але эканоміць не пачалі. І гатовы плаціць усю суму цалкам.



**Валерыя Шаўчэнка, менеджар і педагог, Маладзечна:**
– Ніяк, таму што я цэлымі днямі на працы і карыстаюся ўсімі дабротамі цывілізацыі толькі па неабходнасці ўвечары. А наконт 100% аплаты – хіба ў нас ёсць выбар? За нас ужо вырашылі, не спытаўшы, як мы будзем спраўляцца.



**Аляксей Жахавец, слесар механазборачных работ, Маладзечна:**
– Я пачаў эканоміць яшчэ да павышэння цэн, купіў энергазберагальныя лямпачкі, прымаю душ замест ванны, жонка прымушае выключаць ад сеткі прыборы, якімі не карыстаемся, разам з зараднымі ад тэлефонаў і ноўтбукаў.



**Павел Філеня, цясляр, Вілейка:**
– Я цяпер жыву ў Віцебску. У нас павысілася цана толькі на 180 тысяч. Пакуль жывём, як і жылі. Тым, хто жыве з бацькамі, вядома, прасцей.



**Вольга Захарэвіч, прадпрымальніца і работнік ЖКГ, Вілейка:**
– Працягваем жыць у звычайным рэжыме, таму што і да павышэння цэн стараліся не траціць рэсурсы без патрэбы. Праўда, суседзі па пад'ездзе на ноч на лесвічнай пляцоўцы выключаюць святло.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№9 (1087) 26.02.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 178. Падпісана ў друк у 9.00 25.02.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.